Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 17 (4715) 26 красавіка 2013 г.

## Пункціpам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць неабходным рэалізаваць тры нацыянальныя праекты для абнаўлення беларускай дзяржавы. Пра гэта Кіраўнік дзяржавы заявіў, звяртаючыся з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. Першы праект — гэта мадэрнізацыя эканомікі. Другі — інфарматызацыя грамадства. Трэці — падтрымка моладзі і яе маштабнае прыцягненне да дзяржаўнага будаўніцтва.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў юбілейнага XX Міжнароднага спецыялізаванага форуму па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях «ТІБО-2013» і XVII Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» з іх адкрыццём. «Кіруючыся сусветнымі тэндэнцыямі, беларускія электронныя і друкаваныя СМІ паспяхова развіваюцца, актыўна ўкараняючы лічбавыя тэхналогіі пры рэалізацыі творчых праектаў», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У час рэспубліканскага суботніка, які прайшоў 20 красавіка ў Беларусі, паводле папярэдніх дадзеных, зароблена Br 53 млрд., што на 29,3 працэнта больш у параўнанні з мінулым годам. Усяго ў рэспубліканскім суботніку ўзялі ўдзел 3 млн. 615 тыс. чалавек.

✔ Падведзены вынікі конкурсу плаката патрыятычнай тэматыкі «Тое, што нас аб'ядноўвае». Спаборніцтва праводзілася Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў пры ўдзеле Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза дызайнераў. 1-е месца атрымала праца «Я — Belarus» студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Анастасіі Панцэвіч; 2-е месца — «Smail» студэнткі БДАМ Алены Махнач; 3-е месца — «UZEL» студэнткі БДАМ Веранікі Барысенкі.

✔ Дні еўрапейскай спадчыны пройдуць у Беларусі 26 — 27 верасня. Акцыя прысвячаецца тэме «Нематэрыяльная гісторыка-культурная спадчына: ахова, супрацоўніцтва, пераемнасць». Падчас мерапрыемства будзе працаваць выстаўка на гэту тэму, пройдзе круглы стол, удзел у якім возьмуць прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, спецыялісты ў сферы аховы нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны.

✔ Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь абвешчаны конкурс эскізных праектаў манументальна-скульптурнай кампазіцыі, прысвечанай Баркалабаўскаму летапісу, у Быхаве. Стварэнне кампазіцыі прымеркавана да правядзення ў горадзе XX Дня беларускага пісьменства. Палажэнне аб умовах конкурсу і форма заяўкі размешчаны на сайце Міністэрства культуры http://kultura.gov.by.

✔ Удзельнікі тэлепраекта «Дзве зоркі» і салісты нью-ёркскай Метраполітэн-опера наведаюць «Баль у Соф'і Гальшанскай». Ён адбудзецца 7 чэрвеня а 22-й гадзіне ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. У фэсце возьмуць удзел артысты музычных тэатраў Мінска, Масквы, Клайпеды, Каўнаса, Караганды, Баку.

✔ 29 красавіка ў 17.30 у вялікай зале Дома літаратара (Мінск, вул.Фрунзэ, 5) адбудзецца сустрэча са старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, вучоным, паэтам і палітыкам Анатолем Рубінавым.

**Падрыхтавала Ярына РЫТАМІНСКАЯ**




5 А вы чыталі сакавіцкія часопісы?



8 Тадэвуш Кандрусевіч: «Я запрасіў Папу на нашу веладарожку»



13 Ад Камаяў да Парыжа... Шляхамі мастака Альфрэда Ромера




14 Усё пра «Маладосць»: урыўкі з бестселера




Фота Кастуся Дробава, калаж Віктара Калініна

# Друк і лічба

**Сёлета яны сімвалічна аб'ядналіся — не толькі пад адным дахам Футбольнага манежа, але і ў фармаце агульнай выстаўкі: XVII форум «СМІ ў Беларусі» і юбілейны XX «ТІБО-2013». Выдатнае спалучэнне, якое дэманструе адзінства інфармацыйных сфер, прызваных кансалідаваць грамадства на ўсіх узроўнях.**

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Тым ці іншым чынам гэтая думка выказвалася афіцыйнымі асобамі, членамі Аргкамітэта. У вітальным слове да ўдзельнікаў і гасцей старшыня Аргкамітэта, намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоль Калінін падкрэсліў, што наш час — век тэхнікі і тэхналогій. Сведчанне разумення гэтага на дзяржаўным узроўні — старшынства Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Савеце па развіцці інфармацыйных тэхналогій у Рэспубліцы Беларусь. Першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Аляксандр Радзькоў зачытаў прывітанне Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам выставак з пажаданнем плённай працы.

«Хто валодае інфармацыяй, валодае светам, — гэта вядомае выслоўе прагучала з вуснаў Рыгора Рапоты, Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы. — Свет аб'ектыўна рухаецца такім чынам, што інфармацыйная прастора становіцца адзінствам у руках саміх журналістаў, тых, хто стварае інфармацыйны прадукт. Таму варта пажадаць ім несці праўдзівае слова, не займаючыся міфатворчасцю, скажэннем праўды».

Пасля таго, як адбылося сімвалічнае адкрыццё, распачаўся адлік плённай працы. Што разумеюць пад пляннасцю выстаўкі самі журналісты? Так, дзейсную прэзентацыю свайго «прадукту» аўдыторыі і, дарэчы, калегам, з якімі ёсць дадатковая магчымасць сустрэцца, паразмаўляць і пасябраваць. Пагадзіцеся, гэта не толькі прыемна, але і карысна. Плённасць — у падвядзенні вынікаў дасягнутага і, разам з тым, планаванні будучых праектаў. Плён — у згуртаванні журналісцкіх калектываў кожнай рэдакцыі на агульную справу самапрэзентацыі і самааналізу. Плён — у магчымасці асабіста сустрэць свайго чытача-гледача-слухача. І не толькі сябе паказаць, але і на іншых паглядзець: раптам, гледзячы на чужую ініцыятыву, узнікнуць уласныя інавацыйныя памкненні.

Апошнім часам падобныя выстаўкі — сапраўдныя мастацкія з'явы. Уразіла фантазія тэлекампаніі «ВаенТВ»: яна аздобіла стэнд сапраўдным... браневікам, — напэўна, з намерам паказаць «усёпраходнасць» сваіх журналістаў, якіх не спыняць ніякія перашкоды. Прыемнае ўражанне — аб'яднаны стэнд беларускага тэлебачання ў выглядзе студыі са ззяючымі прыступкамі. Прыемнай сталася гасціннасць «Белсаюздруку», які, згодна з сучаснай традыцыяй гандлю прэсай, уключае ў свой асартымент натуральную каву. Уразіла... шмат што яшчэ. Пра самае цікавае — у наступным нумары «ЛіМа».

# Гран-пры — у «Звязды»

Звычайна вясною падчас працы міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» праходзіць урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера». Сёлета яна адбылася ў дзявяты раз: вызначаліся лепшыя з лепшых па выніках мінулага года.

### ГРАН-ПРЫ КОНКУРСУ

Вышэйшую ўзнагароду конкурсу, заснавальнікам якога выступае Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, удастоены два праекты. У намінацыі «Лепшы творчы праект года рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» уганараваны праект «Вогненныя вёскі» газеты «Звязда». Гран-пры ў катэгорыі «Лепшы творчы праект года раённых, гарадскіх, шматтыражных друкаваных СМІ» атрымалі «Белавежскія карункі» («Свіслацкая газета»).

### АГУЛЬНАРЭСПУБЛІКАНСКІ ДРУК

Газета «СБ. Беларусь сегодня», якая мае шмат конкурсных узнагарод, сёлета прадставіла лепшыя матэрыялы грамадска-палітычнай тэматыкі. Рэдактар аддзела спорту газеты «СБ. Беларусь сегодня» Сяргей Канашыц узнагароджаны ў індывідуальным спаборніцтве за лепшыя матэрыялы па тэматыцы спорту і здаровага ладу жыцця. Акрамя таго, «СБ. Беларусь сегодня» стала пераможцам у катэгорыі «Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі». Рэдактар аддзела інтэрнэт-версіі газеты «СБ. Беларусь сегодня» Дзмітрый Партон атрымаў узнагароду за лепшы аўтарскі блог сайтаў друкаваных СМІ.

Лепшыя матэрыялы эканамічнай тэматыкі можна прачытаць у газеце «Белорусская нива». Маладзёжная газета «Знамя юности» перамагла ў намінацыі «Лепшыя матэрыялы сацыяльнай тэматыкі». Часопіс «Беларуская думка» — у намінацыі «Лепшыя матэрыялы навуковай і навукова-папулярнай тэматыкі».

### РАЁННЫЯ, ГАРАДСКІЯ, ШМАТТЫРАЖНЫЯ СМІ

«Лепшыя матэрыялы грамадска-палітычнай тэматыкі» адзначаны ў гарадской газеце «Віцьбічы». «Лепшыя матэрыялы сацыяльна-эканамічнай тэматыкі» — у столінскай газеце «Навіны Палесся» і ў «Весніку Магілёва». «Лепшыя матэрыялы па тэматыцы спорту і здаровага ладу жыцця» прадставіла газета «Край Смалявіцкі», «Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі» — мазырская газета «Жыццё Палесся».



Фота Кастуся Дробава

Дырэктар-галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч атрымлівае ўзнагароду з рук міністра інфармацыі Беларусі Алега Праляскоўскага.

### ІНШЫЯ НАМІНАЦЫІ

Лепшае выданне для вольнага часу — часопіс «Лукошко идей». Лепшае дзіцяча-юнацкае выданне — газета «Переходный возраст». Лепшае спецыялізаванае, галіновае выданне — часопіс «Партер».

### ПЕРСАНАЛІІ

«Лепшы рэпарцёр рэспубліканскіх, абласных друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» — аглядальнік аддзела БЕЛТА па асвятленні дзейнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Таццяна Паляжай. «Лепшы аглядальнік» — рэдактар аддзела «Народнай газеты» Яўген Кананові́ч. «Лепшы фотакарэспандэнт рэспубліканскіх друкаваных СМІ, інфармацыйных агенцтваў» — фотакарэспандэнт аддзела па падрыхтоўцы і выпуску фотаінфармацыі рэдакцыі візуальнай інфармацыі БЕЛТА Аляксандр Хітроў.

«Лепшым фотакарэспандэнтам рэгіянальнай прэсы» названы фотакарэспандэнт газеты «Гомельская праўда» Вячаслаў Сухадольскі. Лепшым афарміцелем-дызайнерам стаў вядучы мастацкі рэдактар часопіса «Планета» Юрый Жыбуль. Дырэктар Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук Сяргей Дубовік узнагароджаны «За ўклад у развіццё журналістыкі». У 2013 годзе статуэтка «Залатой Ліцеры» не ўручалася лепшаму рэпарцёру раённых, гарадскіх, шматтыражных друкаваных СМІ.

**Падрыхтавала Рыта СТАХ**



# Слынная опера Пучыні на беларускай сцэне

Апошнюю оперу знакамітага італьянскага кампазітара Джакама Пучыні, чые творы сталі цэлай эпохай у оперным мастацтве, рыхтуе Вялікі тэатр Беларусі (дырыжор-пастаноўшчык — заслужаны артыст Украіны Віктар Пласкіна, хормайстар — народная артыстка Беларусі Ніна Ламановіч). Прэм'ера спектакля «Турандот», якая адбудзецца 29 і 30 красавіка, абяцае быць незвычайнай.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Нагодай таму — не толькі надзвычай складаны для выканання матэрыял, за які адважваюцца брацца толькі самыя буйныя оперныя тэатры свету, не толькі тое, што сам кампазітар ацэньваў свой твор вышэй за іншыя і лічыў яго энцыклапедыяй музычнага майстэрства, але і рэжысёрская канцэпцыя, якую прапануе пастаноўшчык спектакля Міхаіл Панджавідзэ.

Галоўны рэжысёр беларускай оперы мае ўласную трактоўку гісторыі бязлітаснай кітайскай прынцэсы Турандот. Як вядома, смерць перашкодзіла Пучыні скончыць свой лепшы твор. Цяжкая хвароба перапыніла яго працу над операй тады, калі заставалася дапісаць толькі заключны любоўны дуэт Турандот і Калафа, у якім адбываецца духоўнае перараджэнне жорсткай прынцэсы, і шчаслівы фінал. Па яго накідах оперу завяршыў сябар — кампазітар Франка Альфана. У такім выглядзе спектакль ішоў да апошняга часу ў тэатрах свету. Аднак рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ не бачыць у гэтай гісторыі «хэпі-энду»:

— Маё рашэнне іграць гэты спектакль без фіналу, напісанага пасля скону аўтара, мае пэўныя падставы. Мы прызвычаіліся лічыць Пучыні кампазітарам XIX стагоддзя і чамусьці забываем, колькі ён пражыў у дваццатым, што ён бачыў. А бачыў ён крушэнне чатырох імперый, Першую сусветную вайну, еўрапейскія рэвалюцыі. На яго вачах адбываліся падзеі, якія вызначылі гісторыю чалавецтва на шматлікія гады... Свае разважанні ён увасобіў у оперы «Турандот».

Вельмі сімвалічна, што смерць заспела Пучыні менавіта тады, калі ў оперы памірае Лю, любімая гераіня аўтара, створаная ў процілегласць Турандот, і запланаваны хэпі-энд застаецца толькі ў накідах. У гэтым ёсць нейкая містыка, найвышэйшая справядлівасць. Усё адбываецца менавіта так і тады, калі павінна адбыцца. Таму мне здалося цалкам лагічным паставіць і ў нашым спектаклі на гэтым месцы кропку.

Я хачу звярнуць увагу людзей на тое, што адбываецца сёння ў свеце, пагаварыць з публікай пра тыя праблемы, якія існуюць цяпер. А іх Пучыні апісаў практычна сто гадоў таму. Па-ранейшаму ідуць войны і знікаюць дзяржавы. Гэта вечная гісторыя, гісторыя чалавецтва.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міжнародны фонд «Сям'я, Адзінства, Айчына» аб'яўляюць аб правядзенні ў 2013 годзе літаратурнага конкурсу на тэму "Сям'я — першая школа духоўнасці і патрыятызму" ў намінацыях «Проза» (аповесці, апавяданні), «Дзіцячая літаратура» (казкі, апавяданні, драматургія), «Паэзія» (вершы, вершаваныя казкі).

За лепшыя празаічныя творы ўстаноўлены: 1-я прэмія — 7 млн. руб., 2-я прэмія — 5 млн. руб. За лепшыя творы дзіцячай літаратуры: 1-я прэмія — 6 млн. руб.; 2-я прэмія — 4 млн. руб.; 3-я прэмія — 2 млн. руб. У галіне паэзіі: 1-я прэмія — 3 млн. руб.; 2-я прэмія — 2 млн. руб.

Конкурс праводзіцца з 1 мая па 1 кастрычніка 2013 года. Працы на конкурс накіроўваць па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5. Саюз пісьменнікаў Беларусі. З пазнакай «На конкурс "Сям'я"».

Старшыня журы конкурсу — У. Грозаў, члены журы — І. Саверчанка, А. Марціновіч, У. Мазго, З. Падліпская, А. Бадак, В. Шырко. У конкурсе могуць узяць удзел прафесійныя пісьменнікі, журналісты, педагогі, аматары мастацкага слова.

# Назаўжды застанецца



17 красавіка пасля працяглай хваробы на 95-м годзе жыцця памёр вядомы пісьменнік, заслужаны работнік культуры БССР, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Алесь Цімафеевіч Бажко. Нарадзіўся А. Бажко ў вёсцы Даўгінава Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыў Навагрудскі музычны інстытут імя С. Манюшкі (1938) і быў залічаны ў Варшаўскую кансерваторыю. Вучоба была спынена ў сувязі з нападам фашысцкай Германіі на Польшчу. Працоўную дзейнасць будучы пісьменнік пачаў у 1940 годзе на пасадзе дырэктара Мірскага раённага дома культуры. Затым служыў у Чырвонай арміі. У час Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у баях пад Ельняй і Калінінам, быў паранены. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Войска Польскага на тэрыторыі СССР як генеральны інструктар прапаганды Валагодскага акружнога ўпраўлення Саюза польскіх патрыётаў. Пасля вайны знаходзіўся на камсамольскай і журналісцкай рабоце. У 1955 годзе завочна скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве. Працаваў карэспандэнтам, загадчыкам аддзела, намеснікам галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва», загадчыкам рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы, у Міністэрстве культуры.

Друкавацца Алесь Бажко пачаў з 1945 года. Першая кніжка выйшла ў 1955 годзе. Пісаў прозу, вершы, паэмы, нарысы. Выйшлі кнігі «Карвіга пакідае хутар» (1961), «Позняе ворыва» (1963), «Татры» (1964), «Блакітныя вербы» (1973), «Татальнае банкруцтва» (1973), «Суладдзе» (1975), «Каласы і скалы» (1978), «Лясныя крушні» (1981), «Жывыя прывіды» (1986) і іншыя.

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі, Ганаровай граматай і Граматай Вярхоўнага Савета БССР. З 1979 г. — персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння.

Мы ведалі яго руплівым, шчырым, надзейным таварышам, актыўным творцам, уважлівым, інтэлігентным чалавекам. Такім ён назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Мудры напамінак жывым

Пайшоў з жыцця, завяршыў свае дні сонцам адзін з аксакалаў беларускага мастацкага слова, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Алесь Бажко. Пісьменнік, шырокай душы чалавек, нястомны працаўнік, сапраўдны, з вялікай літары Грамадзянін.

Акрамя выдатных, праўдзівых аповесцей, паэм, вершаў, смелай і яркай публіцыстыкі, створаных цягам жыцця, у яго літаратурнай спадчыне ёсць невялікі, чыста аўтабіяграфічны твор, што змешчаны ў зборніку пісьменніцкіх аўтабіяграфій "Пра час і пра сябе", які пабачыў свет без малога палову стагоддзя таму. Гэта не проста звычайная біяграфія, пабудаваная на лічбах і фактах, а цікавы і ёмкі літаратурны твор, мудры напамінак нам, жывым, новым пакаленням.

Прачытай, дарагі сучаснік, асабліва малады, гэты твор, паразважай над паваротамі жыццёвай дарогі і думкамі чалавека, які жыў адзіным клопатам — марай пра светлую будучыню свайго роднага краю, жыў з верай у тое, што апрача Госпада Бога нашага ў невымернай высі над намі ёсць яшчэ Багі зямныя — Праца, Мужнасць, Любоў і Адданасць Бацькаўшчыне.

**Алесь САВІЦКІ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці вядомага пісьменніка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алеся Цімафеевіча БАЖКО і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў газеты «Літаратура і мастацтва» смуткуе ў сувязі са смерцю пісьменніка Алеся Цімафеевіча БАЖКО і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Такі, як ёсць

Фота Уладзіміра Сіза



Сяргей Давідовіч вядомы ў беларускай культпрасторы як паэт і мастак-жывапісец, у тым ліку — як гумарыстычны мастак. Як сказаў сябра і калега пісьменніка Павел Саковіч, такое спалучэнне — з'ява адзінкавая, бо зазвычай гумарыстычныя творы ствараюцца карыкатурыстамі ці шаржыстамі. Мастацкія работы Сяргея Давідовіча можна было ўбачыць падчас прэзентацыі яго новай паэтычнай кнігі "У віры падзей" у Доме-музеі Якуба Коласа.

Кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ», заснаванай у 2011 годзе сумесна з выдавецтвам «Чатыры чвэрці». І так атрымалася, што зборнік Сяргея Давідовіча стаў юбілейным — дзясятым. У зале пажартавалі: маўляў, трэба казаць — не дзясятым, а што патрапіў у дзясятку лепшых. Аднак пра тое няхай мяркуе чытач.

— Як бы я ахарактарызаваў гэтую кнігу? — задаецца пытаннем Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ і вядучы прэзентацыі. — Кніга роздуму, поўнага болем за людзей і атручаную Чарнобылем зямлю. Кніга запаветаў чытачу. Кніга-спадзяванне, што, нягледзячы на тое, што свет коціцца да сваёй пагібелі, чалавецтва ўсё ж не дойдзе да апошняй мяжы. Кніга-споведзь, поўная філасофскіх развагаў. Кніга вялікай сыноўняй любові да зямлі і сваіх каранёў. Кніга веры: у шчасце, шчырасць і гармонію.

У віры падзей хапае ўсяго, ад згаданага спадаром Міхасём болю да гумару, які так любіць аўтар. Аднак, нягледзячы на той самы вір, Сяргей Давідовіч напісаў не толькі некалькі дзясяткаў вершаў, але і сем паэм. Дарэчы, не адзін выступоўца згадваў той факт, што ніхто, бадай, пасля Якуба Коласа не склаў столькі паэм — каля 50. Да гэтага часу Сяргей Давідовіч выдаў кнігі «Горкая кропля», «Развод па-славянску», «Званы часу», «Гумарынку пад язык», «Нясу свой крыж», «Люстэрка лёсу» і інш.

Новыя вершы перш за ўсё вызначаюцца публіцыстычнасцю. Ледзве не ўсе яны закранаюць праблемы грамадства: алкагалізм, бюракратыю, пустую паказальнасць, бездухоўнасць і г. д. Такія, сумныя па сутнасці сваёй развагі Сяргей Давідовіч прыпраўляе гумарам, але гарчынка ўсё адно адчуваецца.

Аднак не такія вершы — хоць іх у кнізе і большасць — вызначаюць спадара Сяргея як паэта. Каб сапраўды зразумець яго, думаецца, варта прывесці іншыя радкі:

*Прымай мяне, жыццё, такім, як ёсць,*
*Я не змянюся, не перараблюся…*
*Хоць я не гаспадар, але й не госць*
*У гэтым свеце і — у Беларусі.*

Міхась Пазнякоў узнагародзіў Сяргея Давідовіча Ганаровай граматай «За вялікі ўклад у беларускую літаратуру і актыўную грамадскую дзейнасць» — падарунак да нядаўняга юбілею творцы.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# «Душа мая, ты зноў ірвешся ў высь»

У Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры прайшоў творчы вечар пісьменніцы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Веры Пракаповіч.



**Марына САМАСЕВІЧ**

Вечар пачаўся нечакана. Яго адкрыў невялікі спектакль у выкананні артыстаў Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы, галоўнай гераіняй якога была яна, Вера.

Творы паэтэсы гарманічна ўпляталіся ў сюжэт пастаноўкі. І вось на сцэну паднялася сама гераіня сустрэчы. Проста і вельмі натуральна загучалі вершы ў аўтарскім выкананні: «Неба бязмежнае — мая душа, сонца гарачае — пачуцці мае, дождж восеньскі — мае крыўды, травы пажухлыя — боль ад кахання...»

Адзін са зборнікаў вершаў Веры Паўлаўны так і называецца — «Боль ад кахання». Лірычную гераіню хвалююць вечныя пытанні пра сэнс жыцця, пра сваё прызначэнне: «Навошта жыву на белым свеце?» — «Каб ліха адвесці, каб у дом з любых дарог імкнуліся дзеці і шчасце квітнела ў ім».

Некаторыя вершы пакладзеныя на музыку і выкананыя сынам паэтэсы — спеваком і кампазітарам Аляксандрам Пракаповічам. «Уваскрашэнне любові!» — так называецца яго новы альбом, прадстаўлены на суд гледачоў.

Юбілей стаў добрай нагодай яшчэ для аднае важнай справы. Вера Паўлаўна з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, а вось білет гэтай арганізацыі знайшоў яе толькі цяпер. Яго ўручыў старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч. На вечарыне таксама прысутнічала маскоўская паэтэса Ірына Палоніна, яна прывезла юбілярцы ганаровую грамату Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі. Павіншавалі творцу калегі, сябры і прыхільнікі яе таленту.

# Узрост юнацкі, а набыткі важкія

Калектыў кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адзначае 20-годдзе. Многа гэта ці мала? Па чалавечых мерках — юнацкі ўзрост, а калі паглядзець на вынікі працы, то можна гаварыць і пра сталасць.

**Людміла ХРЫШЧАНОВІЧ,**
**дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ**

Сапраўды, за гэты час пры ўдзеле супрацоўнікаў кафедры падрыхтавана нямала высокакваліфікаваных спецыялістаў-філолагаў, якія працуюць у розных навучальных установах краіны. Важкі плён прынесла навукова-даследчая праца. Сённяшняе пакаленне філолагаў і ўсіх тых, хто цікавіцца беларускім пісьменствам, карыстаецца вучэбнымі дапаможнікамі і слоўнікамі, падрыхтаванымі і выдадзенымі супрацоўнікамі кафедры: «Гісторыя беларускага мовазнаўства» (аўтар Л. Шакун), «Шасцітомны слоўнік прыказак, прымавак і крылатых слоў» (І. Шчарбакова ў суаўтарстве), «Гістарычная граматыка беларускай мовы: Зборнік практыкаванняў» (У. Анічэнка, М. Прыгодзіч), «Асобна, разам, праз дэфіс» (М. Прыгодзіч), «Старабеларускі лексікон» (М. Прыгодзіч, Г. Цівонава) і інш.

Плённа супрацоўнічаюць выкладчыкі кафедры з навукоўцамі іншых устаноў Беларусі. Так, М. Прыгодзіч сумесна з У. Завальнюком і В. Раманцэвіч выдалі ў 2009 г. «Слоўнік сучаснай беларускай мовы», складзены ў адпаведнасці са зменамі правіл беларускай арфаграфіі. Старшы выкладчык Т. Смольская разам з супрацоўнікамі Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя апублікавала даведнік «Кітайска-беларускі бізнес-дыялог» (2010).

Нашы выкладчыкі актыўна ўдзельнічаюць у кангрэсах і канферэнцыях не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі, падтрымліваюць кантакты з лінгвістамі Польшчы, Германіі, Аўстрыі, Чэхіі, Расіі, Украіны, Літвы. Сярод цікавых міжнародных праектаў — «Трасянка ў Беларусі — «змешаны код» як прадукт беларуска-рускага моўнага кантакту. Моўнае структураванне, сацыялагічныя механізмы ідэнтыфікацыі і сацыяэканоміка мовы», які распрацоўваўся сумесна з мовазнаўцамі Альдэнбургскага ўніверсітэта. Кіраўніком праекта з нямецкага боку з'яўляўся прафесар Герд Генчэль, з беларускага — дацэнт Сяргей Запрудскі. У ліку выканаўцаў з беларускага боку ўдзельнічалі выкладчыкі і аспіранты кафедры. Сукіраўніком другога беларуска-германскага праекта па тэме «Блукаючыя германізмы» з'яўляецца загадчык кафедры прафесар Мікалай Прыгодзіч.

Асноўныя вынікі навуковых даследаванняў кафедры атрымалі еўрапейскае прызнанне, што знайшло адлюстраванне ў дакладах на XIII — XIV Міжнародных з'ездах славістаў. Да таго ж, у праграму XV з'езду, які адбудзецца 20 — 27 жніўня 2013 г. у Мінску, уключаны даклады супрацоўнікаў кафедры М. Прыгодзіча і С. Запрудскага.

Сёння полем навуковых даследаванняў кафедры з'яўляецца паглыбленае вывучэнне шляхоў развіцця беларускай мовы на розных этапах яе гісторыі, працягваецца праца над падрыхтоўкай манаграфій, вучэбных дапаможнікаў, падручнікаў, хрэстаматый і інш.

З удзячнасцю ўспамінаюць на кафедры тых, хто стаяў ля яе вытокаў: знакамітага вучонага і педагога, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна, першую жанчыну-прафесара ў Беларусі Марыю Андрэеўну Жыдовіч, дацэнтаў Міхаіла Іванавіча Жыркевіча, Еўдакію Сцяпанаўну Мяцельскую. Традыцыі, закладзеныя старэйшым пакаленнем, свята захоўваюцца ў калектыве іх вучнямі і паслядоўнікамі.

Жыццё кафедры — гэта не толькі лекцыі, семінары, практычныя заняткі і навукова-даследчая работа, але і штодзённая праца па выхаванні ў моладзі шчырай любові да роднага слова, да нацыянальнай культуры, яе традыцый, пачуцця гонару за свой народ. Гэтаму спрыяюць шматлікія сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Беларусі, прэзентацыі кніг, наведванне музеяў, правядзенне Тыдня роднай мовы і г. д.

Многае ў рабоце любога калектыву залежыць ад асобы кіраўніка, яго арганізатарскіх здольнасцей. Кафедрай гісторыі беларускай мовы з дня яе заснавання кіруе доктар філалагічных навук прафесар Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч. Пад яго кіраўніцтвам кафедра стала моцнай творчай камандай аднадумцаў, сапраўдных руплівцаў на ніве беларускага пісьменства.

## Абрысы

Грамадскае аб'яднанне «Беларускі камітэт міжнароднага савета музеяў «ICOM» у супрацоўніцтве з Нацыянальным камітэтам ICOM Швецыі, Шведскім інстытутам, Гістарычнай майстэрняй Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў, Інстытутам культуры Беларусі правялі семінар-практыкум «Культурная спадчына сучаснага грамадства», прысвечаны праблемам дакументавання, даследавання і экспанавання сучаснасці. Удзельнікі семінара змаглі пазнаёміцца з вопытам Швецыі па вывучэнні, дакументаванні і інтэрпрэтацыі сучаснасці музейнымі сродкамі, а таксама прымяніць гэты вопыт падчас палявых даследаванняў у сучаснай беларускай культурнай прасторы.

Пісьменнікі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ узялі ўдзел у рэспубліканскім суботніку. Дапамагчы гораду стаць больш прыгожым і ўтульным сабраліся літаратары розных пакаленняў. Побач з тымі, хто ўжо сказаў сваё ўпэўненае мастацкае слова актыўна працавалі і нядаўна прынятыя ў прафесійныя шэрагі маладыя літаратары. Не ўбу выпадковым той факт, што месцам навядзення парадку стаў парк імя славутага песняра Янкі Купалы. Натхнёна «суботнічалі» тут Міхась Пазнякоў, Аліна Легастаева, Дзмітрый Дзямідовіч, Валерый Чудаў, Іна Фралова, Наталля Казапалянская, Яна Явіч і Адам Шостак.

Музей-сядзіба «Пружанскі палацык» сабраў творцаў на навукова-практычную канферэнцыю «Заходнебеларускі рэгіён у паўстанні 1863 — 1864 гг.». Праблемы, якія абмяркоўваліся на канферэнцыі, былі рознымі. Ваенныя падзеі на Берасцейшчыне паспрабавалі аднавіць П. Гарбуль (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт), А. Карповіч (Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт), Н. Пракаповіч (музей-сядзіба «Пружанскі палацык»). Шэраг вучоных разгледзелі адлюстраванне падзей 1863 — 1864 гг. і асобу К. Каліноўскага ў гістарычнай і мастацкай літаратуры. А. Вабішэвіч (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт) зрабіў агляд гісторыка-краязнаўчых даследаванняў паўстання. Асаблівасці сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі напярэдадні і пасля паўстання былі разгледжаны ў дакладах Н. Галімавай (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт) і Н. Кавалёвай (Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт).

Выстаўку «Вясёлка творчасці» сумесна арганізавалі Лідская дзіцячая мастацкая школа і Лідскі гісторыка-мастацкі музей. У музеі выстаўлены карціны і вершы да іх, напісаныя дзеткамі згаданай навучальнай установы, а таксама нумары «Вясёлкі». На адкрыццё выстаўкі былі запрошаны лідскія літаратары Марыя Масла, Таццяна Сямёнава і дзеці са школы № 11. Прысутныя падзяліліся сваімі ўспамінамі пра часопіс, на якім гадаваліся. Напрыканцы дырэктар Лідскай дзіцячай мастацкай школы Валянціна Грышкевіч прэзентавала кнігу «Творчасць, пафарбаваная ў вясёлку».

# З любоўю і пашанай да вялікага паэта

У мінулым годзе, шчодрым на юбілеі паэтаў, у краіне годна адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. У самой гэтай храналагічнай блізкасці юбілейных дат — заснавальнікаў беларускай класічнай паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа і прадаўжальніка закладзеных імі традыцый Максіма Танка — бачыцца пэўнае сімвалічнае значэнне. М. Танк нарадзіўся якраз тады, калі ўбіралася ў моц класічная беларуская літаратура, якая затым, у віхурным і велічным дваццатым стагоддзі, дасягнула высокага ўзроўню мастацкага развіцця, займела значныя эстэтычныя здабыткі, суадносныя з плёнам іншых еўрапейскіх літаратур.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

Вынікам шматгадовай працы па асэнсаванні творчага шляху вялікага паэта з'яўляецца грунтоўная, маляўніча і з густам аформленая манаграфія вядомага даследчыка літаратуры Міколы Мікуліча «Талент, заручаны з небам», якая выйшла ў свет якраз у юбілейным годзе ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва». Гэту кнігу прыемна ўзяць у рукі — настолькі ў яе святочны, прывабны выгляд. Ужо сама вокладка стварае адпаведны настрой, урачыста-прыўзнятае адчуванне ўваходжання ў свет паэзіі М. Танка. На фоне нябеснай просіні змешчаны партрэт задуменна-натхнёнага паэта, позірк якога нібыта скіраваны да таго запаветна-патаемнага, з чаго пачынаецца лірычнае хваляванне і выспяванне паэтычнага пачуцця.

Кніга багата ілюстравана фотаздымкамі розных гадоў, на якіх паэт знаходзіцца ў акружэнні родных, блізкіх, сяброў, паплечнікаў. Мы бачым М. Танка не толькі ў час творчай працы або актыўнай далучанасці да падзей грамадскага і літаратурнага жыцця, але і ў самыя звычайныя імгненні яго зямнога быцця. І ў ілюстрацыйных матэрыялах, і ў змесце кнігі М. Танк паўстае ва ўсіх праявах яго маштабнай асобы.

У жыцці і творчасці вялікага паэта ўсё ўзаемазвязана, любая праява мастацкага генію мае істотнае значэнне. Менавіта з такой пазіцыі зыходзіць М. Мікуліч, які ўжо шмат гадоў грунтоўна даследуе паэзію М. Танка, стварае яго жыццяпіс. У новай сваёй кнізе М. Мікуліч напоўніцу выяўляе сябе як абазнаны біёграф і праніклівы даследчык, для якога танкаўскі свет паэзіі з'яўляецца здаўна абжытым, родным і блізкім.

Аўтар закранае розныя аспекты творчай і грамадскай дзейнасці паэта. Адпаведна ў кнізе прадстаўленыя раздзелы, у якіх асвятляюцца тыя або іншыя пытанні, жыццё і паэзія М. Танка падаюцца ў розных ракурсах. Але нязменна з боку аўтара адчуваецца вялікая любоў і павага да класіка беларускай паэзіі.

М. Мікуліч мог бы з поўным правам сказаць: мой Максім Танк, як, да прыкладу, існуюць падобныя фармуліроўкі ў адносінах да класікаў іншых літаратур (мой Пушкін). Таму што, можа, самае каштоўнае ў кнізе апрача, вядома, бясцэннага фактаграфічнага, архіўнага матэрыялу — гэта якраз непасрэднае выяўленне аўтарам суб'ектыўных у добрым сэнсе гэтага слова адносін да асобы паэта, да створанага ім.

Захапленнем М. Танкам як паэтам і чалавекам прасякнутая ўся кніга М. Мікуліча. Адсюль і яго жаданне перадаць сваё любоў і захапленасць чытачу, як мага шырэй, аб'ёмней паказаць веліч паэта.

З прызнання ў тым, што значыць для яго паэзія класіка, з расповеду пра тое, як яна станавілася неад'емнай часткай яго жыцця, пачынае аўтар свой выклад. Ужо ва ўступе «Шлях да паэта» гучыць гэтая вельмі істотная для ўсёй кнігі нота — асабістага, прапушчанага праз уласную душу ўспрымання творчасці паэта. Стварэнню аб'ёмнага, стэрэаскапічнага партрэта М. Танка ў значнай ступені садзейнічае сумяшчэнне двух ракурсаў бачання: суб'ектыўна-індывідуальнага і абагульнена-аб'ектыўнага. Таму на роўных правах выступаюць тут і эмацыянальнае суперажыванне, і аналітычны падыход, і выкарыстанне дакументальных дадзеных.

Глыбокае пранікненне ў сутнасць духоўна-эстэтычнага феномена М. Танка, непасрэднае судакрананне з ім як неардынарнай асобай абумовілі грунтоўнасць аналізу, выверанасць і трапнасць фармуліровак і характарыстык. Пры гэтым у мове выкладу выяўляецца пэўная свабода выяўлення, схільнасць аўтара да самавітага, адметнага слова. Думаецца, што ў дадзеным выпадку на стыль даследчыка аказвае несумненны ўплыў магутнае моўнае радовішча паэта, яго выключнае адчуванне семантычнай глыбіні і паўнагучнасці роднай мовы.

У назве першага раздзела кнігі — «Прастор мастацкага слова» — выразна

> *«М. Мікуліч мог бы з поўным правам сказаць: мой Максім Танк, як, да прыкладу, існуюць падобныя фармуліроўкі ў адносінах да класікаў іншых літаратур (мой Пушкін). Таму што, можа, самае каштоўнае ў кнізе апрача, вядома, бясцэннага фактаграфічнага, архіўнага матэрыялу — гэта якраз непасрэднае выяўленне аўтарам суб'ектыўных у добрым сэнсе гэтага слова адносін да асобы паэта, да створанага ім.*

пазначана асноўная скіраванасць даследчыцкага пошуку. Аўтар манаграфіі імкнецца цалкам ахапіць мастацкі свет М. Танка. Пры гэтым пільная ўвага даследчыка звяртаецца на ідэйна-мастацкія магчымасці танкаўскай паэтыкі, на тое, якім чынам выбудоўваецца, паўстае ва ўсёй сваёй велічы выяўленае ў паэтычных вобразах народнае жыццё.

М. Мікуліч пералічвае канцэпты, якія ў танкаўскай паэзіі маюць сімвалічнае значэнне, якімі вызначаецца характэрнасць светаўспрымання лірычнага героя, адметнасць гістарычнага шляху і духоўнага досведу народа. Гэта «чорныя скібы, паднебныя шляхі, каласістае гора, жалезны вырай, этапныя дарогі, світальная зара, полымя волі, сталёвы сонечны паход» і многія іншыя. Як слушна заўважае даследчык, падобная пластычна важкая і ў той жа час канцэптуальна значная вобразнасць цесна спалучана з гістарычным часам, нясе на сабе адбітак пэўнай эпохі, выяўляе «характэрныя асаблівасці беларускага нацыянальнага лёсу».

У кнізе М. Мікуліча багата тонкіх назіранняў над асаблівасцямі танкаўскай паэтыкі, структурнымі суадносінамі розных элементаў агульнага мастацкага цэлага, праз якія якраз і выяўляецца змястоўнасць паэтычнага выказвання. Вось, да прыкладу, адзін з найбольш адметных узораў такога праніклівага аналізу. Аўтар па-новаму прачытвае хрэстаматыйны твор «Спатканне». «Верш пабудаваны ў форме своеасаблівых кінадраматургічных кадраў, якія змянялі адзін аднаго і тым самым рухалі сюжэтнае дзеянне», — заўважае даследчык.




Выяўляючы ўласны патэнцыял аналітычнага падыходу да творчасці паэта, М. Мікуліч разам з тым уважліва адносіцца да здабыткаў у галіне танказнаўства іншых даследчыкаў, спасылаецца на іх працы, адзначае найбольш істотныя канцэптуальныя палажэнні. Таму можна з поўнасцю казаць, што рэцэнзуемая кніга мае ў многім падагульняльны характар, з'яўляецца яскравым сведчаннем сучаснага стану танказнаўства.

Істотным і важным для разумення месца М. Танка ў славянскім літаратурным кантэксце з'яўляецца раздзел «У рускіх перакладах», у якім аналізуюцца пераклады твораў паэта на рускую мову. Аўтар заўважае, што паэзію М. Танка ўзнаўлялі па-руску ў розныя часы дзясяткі перакладчыкаў, сярод якіх былі выдатныя паэты, такія, напрыклад, як А. Пракоф'еў, В. Бергольц, І. Сельвінскі...

> *«М. Танку як славутаму паэту, кіраўніку Саюза пісьменнікаў, вядомаму грамадскаму дзеячу пісалі вельмі многія, звярталіся да яго з рознымі прапановамі і просьбамі. Вытрымкі з гэтых лістоў, часцей за ўсё нідзе раней не апублікаваных, шчодра цытуюцца аўтарам кнігі. Падаюцца тут таксама і ўспаміны тых, хто асабіста ведаў паэта, іх уражанні ад непасрэднага судакранання з танкаўскімі творамі і абаяльнай прыцягальнасцю яго асобы.*

М. Мікуліч адзначае вартыя ўзнаўленні танкаўскай паэзіі, тыя нярэдкія выпадкі, калі паэтамі-перакладчыкамі ўдала перадаецца «парадаксальнасць мыслення М. Танка, яго характэрны асабовы модус адлюстравання рэчаіснасці». Але не абыходзіць ён увагай і тых выпадкаў, калі нават прызнаных майстроў перакладчыцкай справы часам падсцерагае няўдача. Адбываецца гэта таму, што надзвычай складана выявіць у іншамоўнай форме ўсю глыбіню і нерушную крамянасць танкаўскага паэтычнага слова, яго непарыўную сувязь са стыхіяй народнай мовы, з народным светаўспрыманнем. Часам якасці перакладу шкодзяць суб'ектыўнасць успрымання, значны адыход ад змястоўна-фармальных дадзеных арыгінала. Як паказвае праведзены аўтарам аналіз, існуе значны патэнцыял для больш глыбокага і шматбаковага рускамоўнага ўвасаблення паэзіі

*Мікуліч, М. Максім Танк. Талент, заручаны з небам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 334 с.*

М. Танка, для таго, каб творчасць беларускага паэта першаступеннай велічыні стала яшчэ больш зразумелай і блізкай рускаму чытачу і ўсім, хто знаёміцца з нашай літаратурай праз пасрэдніцтва рускай мовы.

Красамоўнай і паказальнай з'яўляецца назва аднаго з асноўных раздзелаў кнігі М. Мікуліча — «Сэрца насцеж, або Моваю дакументаў і фактаў». У гэтай назве, у яе кантраснасці вельмі выразна выяўляецца адметнасць аўтарскага падыходу, спалучанасць духоўнага і пачуццёвага пачатку з аналітычным.

М. Танку як славутаму паэту, кіраўніку Саюза пісьменнікаў, вядомаму грамадскаму дзеячу пісалі вельмі многія, звярталіся да яго з рознымі прапановамі і просьбамі. Вытрымкі з гэтых лістоў, часцей за ўсё нідзе раней не апублікаваных, шчодра цытуюцца аўтарам кнігі. Падаюцца тут таксама і ўспаміны тых, хто асабіста ведаў паэта, іх уражанні ад непасрэднага судакранання з танкаўскімі творамі і абаяльнай прыцягальнасцю яго асобы. З гэтага рэпрэзентатыўнага, сістэматызаванага фактаграфічнага матэрыялу паўстае шматгранны вобраз паэта ў шматстайнасці яго быццёвых праяў.

Трэба прызнаць, што шматлікія і разнастайныя паводле свайго характару звароты да М. Танка ў значнай ступені забіралі каштоўны для яго час, патрэбны для творчасці. Аднак, з другога боку, важна адзначыць і тое, што, з увагай ставячыся да кожнага адрасавана яму паслання, пранікаючыся паўсядзённымі клопатамі людзей, паэт быў у курсе рэальных жыццёвых праблем. Яшчэ раз падкрэслім істотную адметнасць кнігі М. Мікуліча: у ёй выдатны беларускі паэт паўстае не толькі ў каардынатах мастацкага пошуку, але ў асабовых вымярэннях. Увага акцэнтуецца на лепшых яго чалавечых якасцях, якія нязменна адзначаюцца ўсімі, хто сустракаўся з ім.

Сустрэчам і гутаркам аўтара кнігі з М. Танкам у апошнія гады яго жыцця прысвечаны выключна важны і каштоўны сваім дакументальным характарам і фактаграфічным матэрыялам раздзел «З паэтам tête-à-tête». М. Мікуліч зрабіў у свой час вельмі патрэбную справу, і цяпер мы маем сапраўды неацэнны дакументальны матэрыял — запісы гутарак з паэтам, якія даюць уяўленне пра тое, што займала яго думкі, як ён ставіўся да актуальных пытанняў грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, як ацэньваў пройдзены шлях. Наведванні хворага паэта мелі значэнне і ў чыста чалавечым плане: М. Танк, маючы магчымасць пакінуць нашчадкам свой роздум, сваё словасведчанне пра час і пра сябе, адчуваў, што яго жыццёвы і мастацкі досвед патрэбны маладзейшым пакаленням.

Вобраз вялікага паэта, яго творчасць паўстаюць у кнізе М. Мікуліча ў шматракурсным праламленні, прапушчаныя праз асабістае ўспрыманне, у суаднесенасці з агульным ходам літаратурнага развіцця і ў праекцыі на будучыню айчыннай паэзіі. Постаць паэта дзякуючы гэтай кнізе стала для нас больш блізкай і вялікай.

# Пераменная воблачнасць, вецер шквалісты



**Алена КАРП**

Пісьменніку з іменем бывае няпроста пазбегнуць зададзенасці, стэрэатыпнасці чытацкага ўспрымання. За Раісай Баравіковай, напрыклад, цягнецца шлейф азацыяцый: «фантастыка», «эзатэрыка». Гэта зразумела: фантастычных твораў у Раісы Андрэеўны сапраўды шмат, яны якасныя, чытэльныя, глыбокія, але ж пісьменніца можа і нешта іншае. Што і даводзіць аповесць «Чорны вецер» (першая частка — «Вецер з Чорнага яра» — друкавалася ў часопісе «Полымя» ў сакавіку 2008 г., другая — «Распагоджаныя дні» — з'явілася ў свежым нумары).

Што праўда, твор гарантуе кожнаму брату па дукату. Тыя, хто прагнуць патаемнага, невымоўнага, задаволяцца: містыка будзе. Тыя ж, каму хочацца, каб гарызонт чаканняў быў пераадолены, таксама ўсцешацца: містычнае разліваецца па тэксце ціха і ненавязліва, пакідаючы ў сухім астатку вельмі яснае, простае і важкае этычнае выказванне.

Такім чынам, не фантастычная аповесць, а сямейная драма, «горкая сага пра сям'ю Бузякоў». І пачынаецца яна не з першай смерці і нават не з крадзенага золата, а яшчэ раней, магчыма, нават паза тэкстам. Сямейная драма пачынаецца з канфлікту двух кардынальна розных светапоглядаў, дзвюх маралей. Канфлікт тым больш балючы, бо адбываецца паміж маці і сынам. Час рэпрэсій — дзеянне завязваецца ў 1937 г. — дзеліць жыццё на «да» і «пасля». Маці застаецца ў сваім часе са сваёй мараллю, з аксіялогіяй, у якой сумленне яшчэ нешта значыць, а «як жа пасля ў вочы глядзець» — яшчэ аргумент. А сын ужо чуе пах крыві, пах свабоды, роўнай усёдазволенасці. «Цябе з упаўнаважаным бачылі. З кацапам...» — ён ужо ведае, хто свой, а хто чужы і да каго варта трымацца бліжэй. У «Аблаве» Васіля Быкава падобны канфлікт прасочваецца ад пачатку і да канца. Тут толькі вынік, толькі наступствы, і тым не менш сцэна дыялогу паміж маці і сынам — адна з самых моцных у творы.

«Гы-ы-ы-ы... Гы-ы-ы-ы... — вырвалася з матчыных грудзей, і яна закашлялася, папярхнулася гэтым сваім глухім, нечаканым плачам. <...> — Пайду... Зараз жа пайду да Каранеўскіх... Назад людзям дабро іхняе занясу. Занясу, павінюся... Гы-ы-ы-ы... Што ты нарабіў?! Я газы пляшку ўчора ў Ванды пазычыла... Як жа буду ёй аддаваць? Як парожак іхні пераступлю? Павінюся... Пайду!

І яна адпіхнула сына ад сябе, наважваючыся ісці. Той выхапіў вузельчык з матчыных рук і міжволі заступіў дарогу. У голасе пачулася злосць:

— Хочаш, каб гэтыя... з мястэчка забралі. А яны вытраслі б, як толькі трэсці пачалі б! На Каранеўскіх усе паперы гатовыя... Яны яшчэ таго не ведаюць, а недзе там... ужо ўсё вырашылі. Высяляць іх адсюль будуць. <...> Хто пра што дазнаецца, ма-а? Каму яны паскардзяцца? Каму што раскажуць? Ад уладаў золата хавалі? Хай толькі пікнуць...»

Для аповесці, і не абы-якой, хапіла б і гэтага матэрыялу. Але Раіса Баравікова не ашчаджае сюжэты, нібыта іх яшчэ поўна ў запасе і прыдумаць новыя нічога не каштуе (дык і напрыдумляе ж, ніхто не сумняваецца). У выніку завязваецца мноства вузлоў, і калі б кожная ўзнятая праблемная тэма раздалася ўшыркі і ўглыб, то пазнаку «аповесць» можна было б з лёгкай душой замяніць на «раман».

Гэта зусім не азначае, што сюжэтныя хады або характары недапрацаваныя. Наадварот, нават так ліха закруціўшы дзеянне, пісьменніца паспявае вельмі тонка, далікатна абыходзіцца з дэталямі. Згадаць хаця б той вузельчык з золатам, які ніяк не атрымліваецца зручна падхапіць, які ўсё выслізгвае, нібыта крадзенае апякае рукі. Альбо так званае апасродкаванае выяўленне душэўнага стану. З «Мяжы» Андрэя Федарэнкі запомнілася: «Адна крытык пазней напіша: "Героі Федарэнкі ўвесь час ківаюць і з галавой нешта робяць"». Напэўна, калі б пра «Чорны вецер» пісала тая самая аўтарка, то не стрымалася б, адзначыла, што ніводны герой Баравіковай не паверне галавы дарэмна. Змена інтанацый, міміка, рухі— усё выверана, дакладна, псіхалагічна матывавана.

Акрамя таго, у першай частцы яшчэ хапае дыхання, размаху, каб даць і партрэт часу: 1937-ы, 1990-я гг. 2004-ы ці то апынаецца занадта блізкім, ці то ўсё засланілі сюжэтныя калізіі. Характарыстыка часу хіба што ў знерваванасці кватэрным пытаннем і рэпліцы Тацяны: «Вы той час згадайце! Гэта цяпер усё можна, усё па-іншаму, разгуляева, адным словам...» Але няхай яна не бянтэжыць чытача: жаданы маральны імператыў сцвярджаецца не праз інвектывы, але праз саму хаду дзеяння. А яно, між тым, пакідае зачэпкі, якія вымушаюць паламаць галаву: ці не з'явіцца неўзабаве трэцяя частка аповесці?

# Ад Бабровіцкага возера да тэатральнай Масквы



**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Чарговы нумар «Нёмана» можа зацікавіць шырокае кола чытачоў: у часопісе багата сур'ёзных і карысных тэкстаў самай рознай тэматыкі.

Рубрыка «Дакументы. Нататкі. Успаміны» змяшчае працяг жыццяпісу акадэміка Яўхіма Карскага, зробленага яго праўнукам Аляксандрам. Грунтоўны, дэталёвы тэкст з сур'ёзнай факталагічнай асновай мог бы стаць узорам біяграфічнага нарыса, якіх так шмат яшчэ мае з'явіцца ў беларускім мовазнаўстве і літаратуразнаўстве. Апублікаваны тут і ўспаміны Тацццяны Арловай «Сумныя ўсмешкі ХХ стагоддзя», тэмай якіх стала доўгае сяброўства аўтаркі з Міхасём Стральцовым.

Выдатныя артыкулы з рубрыкі «Культурны свет» прысвечаныя сучаснаму тэатральнаму жыццю Расіі, Германіі і Беларусі. Дзяніс Марціновіч шпацыруе па тэатральнай Маскве і дзеліцца ўражаннямі пра новыя пастаноўкі, Аляксей Стрэльнікаў звяртаецца да драматургіі Эльфрыдэ Елінэк і на прыкладзе аднаго са спектакляў распавядае пра «постдраматычны тэатр», які дагэтуль не з'явіўся на Беларусі.

Новы «Нёман» варты ўвагі не толькі філолагаў і тэатралаў, але і гісторыкаў: так, у «Літаратурным аглядзе» змешчана грунтоўная рэцэнзія Эмануіла Іофе на кнігу А. Шаркова «НКУС Беларусі на абароне айчыны ў гады суровых выпрабаванняў (1941 — 1945)».

Што ж засталося на долю аматара літаратуры? На жаль, мастацкая частка нумара крыху блякне.

На фоне жаночай паэзіі вылучаюцца вершы Марыны Помаз-Лайковай, адметнай публікацыяй стала дэбютнае апавяданне Станіслава Дзеркача «Сон волата». Аўтар смела робіць рэчы, якія наўрад ці дазволіў бы сабе сталы пісьменнік: першай фразай рэзка супрацьпастаўляе чытача герою-апавядальніку («Большинство из вас проживает свои жизни абсолютно банально»), экспануе цэлы арсенал незараджаных стрэльбаў і абсалютна не імкнецца да псіхалагізму. Але твор усё адно прыемна чытаць — аўтар цікава спалучае ўзнёслыя параўнанні і жыццёвыя падрабязнасці, умее хутка змяніць рэгістр і перайсці ад высокага да камічнага, ад меладрамы да трагедыі. Здольнасць пісаць лёгка і жвава вельмі каштоўная для празаіка, ды толькі сустракаецца нячаста. І да вядомых паданняў пра Менеска і Свіслач С. Дзяркач падышоў з натхненнем, не цераз сілу — міфалагічная тэма, відавочна, натхніла маладога пісьменніка, а вось паралель з сучасным сюжэтам атрымалася крыху непераканаўчай і неабавязковай.

Але найлепшым мастацкім тэкстам «Нёмана» стала аповесць Аляксандра Валковіча «Бабровая вахта». Твор злёгку нагадвае «Маскву-Петушкі» Венядыкта Ерафеева — гэта таксама расповед пра нязддзейсненае падарожжа, у якім герой выказваецца пра што заўгодна — ад сэнсу жыцця да экалагічных праблем (тут варта адзначыць выдатную «Цюменскую баладу»). Герой «Бабровай вахты» — малады рабочы-нафтавік, які ў час перабудовы працуе на росшуках у Вацьеганску. Каларытныя ўспаміны пра нялёгкую працу ў суворай Сібіры чаргуюцца з думкамі пра родны дом, дзядоў ды прадзедаў. Тут знаходзіцца месца і скрушнаму апавяданню пра апусцелы бабровы ручай, і баладзе пра кінутую вёску — вось толькі ў выпадковым перапынку паміж вахтамі герой так і не дабіраецца да сваёй вёскі.

Пісьменнік свабодна выкарыстоўвае жарганізмы і слэнгавыя слоўцы, у выніку чаго мова персанажаў атрымліваецца вельмі характэрнай. Маналог нафтавіка-паэта адметны і самаіроніяй, і крыху наіўным памкненнем героя абавязкова спадабацца, арыгінальна пра сябе расказаць. А. Валковіч паказвае перабудову як адмоўную з'яву, піша пра абясцэньванне чалавечай працы і ўзаемную непатрэбнасць — але разважае над гэтым разбітны, у меру неканформны хлопец, таму твор цалкам пазбаўлены павучальнасці ды кансерватызму.

У выніку бабры вяртаюцца ў Бабровіцкае возера, ветэран Афгана Вінцэсь Вашэка зноў пачынае пісаць вершы, а Вацьеганск — адно з найбуйнейшых на сённяшні радовішчаў нафты. Вось толькі як шкада, цяпер людзям, якія «не любят бардак, но уважают поэзию и не признают капиталистов»?

# І толькі надпіс «Вераніка»...



**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Аповесць Міколы Сянкевіча «У аперацыйным блоку холадна...», надрукаваная ў сакавіцкім нумары «Маладосці», стала маім першым знаёмствам з аўтарам. Старшы выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, ён з'яўляецца аўтарам кніг мастацкай прозы «Усё як было» і «Хутар Паянтрый», а таксама зборніка вершаў «Мае пракосы».

Разглядаемы твор фактычна ўяўляе сабой аповесць у аповесці. Віталь і Ілона (брат і сястра) не ведаюць, куды знік іх тата. Шукаючы сярод яго рэчаў зачэпку, яны знаходзяць незакончаную бацькаву аповесць «Вераніка». У яе аснове — узаемаадносіны Сямёна з жонкай Тацццянай (паміж імі адбываюцца канфлікты) і Веранікай, з якой герой спадзяецца знайсці шчасце...

На ўспрыманне аповесці М. Сянкевіча, безумоўна, паўплывала ўдалая кампазіцыя, а таксама шчырая інтанацыя пісьменніка. Чытач суперажывае героям «Веранікі», якая мае для Сямёна відавочна аўтабіяграфічны характар, міжволі імкнецца даведацца, што ў бацькавай аповесці адпавядае рэчаіснасці, а што з'яўляецца вынікам мастацкай фантазіі. А таксама напружана чакае фіналу «Веранікі», дзякуючы якому можа дазнацца пра лёс аўтара.

Разам з тым у распрацоўцы характараў галоўных герояў відавочны кантраст. Вобразы Сямёна і Веранікі намаляваныя з непрыхаванай сімпатыяй. Аўтар дастаткова тонка перадае адносіны закаханых, якія доўгі час пасля знаёмства бачацца зрэдку і толькі лістуюцца. Такія паводзіны вытлумачальныя. Хворая Вераніка не жадае прыносіць лішнія клопаты каханаму нават пасля сыходу Тацццяны. Сямён не можа зрабіць крок насустрач з-за малых дзяцей. Празмерная нерашучасць, сціпласць герояў і іх імкненне да шчасця выглядаюць пераканаўча, натуральна.

А вось вобраз Тацццяны намаляваны аўтарам выключна цёмнымі фарбамі. Такое стаўленне зададзена з самага пачатку аповесці. Праз тры месяцы пасля вяселля маладая жонка дэманстратыўна раўнуе мужа да незнаёмых дзяўчат. Той адмоўчваецца. І, «папусціўшыся адзін раз, праз месяц-другі ён ужо быў "паразітам" і "паскудай"». М. Сянкевіч ставіць чытачоў перад фактам без аніякага тлумачэння і не прыводзіць аніякіх доказаў. Але што падштурхнула Тацццяну да такога стаўлення? Магчыма, адносіны ў сям'і? Ці мінулы нядалы досвед стасункаў з мужчынам, які здраджваў ёй?

Або іншы ўрывак: «"Дагнаць" маладосць не ўдалося, і Тацццяна неспадзявана павярнулася ў супрацьлеглы бок — да царквы». Так, з узростам жыццёвыя каштоўнасці змяняюцца ў большасці людзей. Але што аўтар хавае пад словам «неспадзявана»? У гэтым фрагменце вельмі не хапае псіхалагічнага вытлумачэння ўчынку Тацццяны. Якая сітуацыя або асоба паўплывала на яе выбар? Адсутнасць адказу на гэтае і шэраг іншых пытанняў прыводзіць да таго, што вобраз гераіні выглядае занадта аднабаковым, у шматлікіх эпізодах прычыны яе паводзін не тлумачацца. Амаль ва ўсіх сітуацыях яна аказваецца няўдзячнай жонкай, кепскай маці і дрэннай гаспадыняй. Відавочная нераспрацаванасць псіхалагічнага партрэта Тацццяны выклікае нязгоду і збядняе твор.

Не зусім пераканаўчыя і лісты, якія дасылае Вераніка Сямёну (асабліва ў фрагменце, дзе аўтар цытуе іх запар). Напісаныя з пэўнай інтанацыяй і пераважна ў адной стылістыцы, яны падобныя да частак аднаго вялікага тэксту, напісанага адным «заходам». Але ж лісты ствараліся ў розны час і апрыёры павінны адлюстроўваць розны настрой свайго аўтара! Крыху не хапае ў аповесці адказаў Сямёна. Складваецца ўражанне, што ўзаемаадносіны герояў маюць аднабаковы характар, хоць гэта не адпавядае рэчаіснасці.

Зрэшты, увесь спектр праблем, якія ўздымаюцца на старонках аповесці (узаемаадносіны паміж мужам і жонкай, бацькамі і дзецьмі, царквой і грамадствам і г. д.), заўжды хваляваў чытачоў. Таму, нягледзячы на прыведзеныя заўвагі, упэўнены, што твор М. Сянкевіча будзе запатрабаваны «маладосцеўскай» аўдыторыяй.

# Глыбака неба налітае сінькаю…

Генадзь ПАШКОЎ



* * *

*Глыбака неба налітае сінькаю.*
*— Божа! Даруй і памілуй! — кажу.*
*Чую:*
*душа,*
*што на ветры асінка,*
*дрыжыць.*
*Перасмагла.*
*Моліць дажджу…*

## У вечнасці бясконцай

*І сенажаць мядовая,*
*і бор,*
*і ў туманах утопленыя хаты,*
*і над ракою,*
*пад скляпеннем зор,*
*схмялелы пошчак салаўёў заўзятых —*
*зачатыя*
*у цемрадзі ўсе мы,*
*гайдалі нас высокія арэлі,*
*з вулканамі глыбіннымі*
*Зямлі*
*мы да святла высокага даспелі.*
*Не ахапіць, што дзеецца,*
*здаля.*
*Але прыходзіць думка не на жарты:*
*А можа, мы,*
*радзімая Зямля,*
*у Вечнасці бясконцае —*
*Блізняты?..*

* * *

*На мазырскіх узвышшах*
*старадаўнія ліпы,*
*а ў лугах заліўных*
*каля сумных ракіт*
*коціць шырака Прыпяць,*
*вечна юная Прыпяць,*
*салаўіную песню*
*і чысты блакіт.*

*Немагчыма стрымаць*
*смутку светлага ў сэрцы,*
*і гаруча сляза*
*на шчаку упадзе.*
*І жыццё ў гэтым свеце,*
*як над хваляю вецер,*
*і вірыць,*
*і сплывае*
*на вечнай вадзе.*

*Твой імклівы чаўнок*
*у тумане растане*
*між ракітаў птушыных*
*і выспелых траў,*
*але покуль жывеш —*
*не перастане*
*і натхняць, і трывожыць*
*загадкавы край.*

*У прастору дыхнуў*
*век нязнаны атрутай.*
*Засцярожлівы боль*
*і надзея ў вачах.*
*А дубровы маўчаць,*
*ды густой мятай-рутай*
*даўка горкне туман,*
*як раней*
*па начах.*

*Ты вазьмі мяне, Прыпяць,*
*загайдай чаратамі,*
*ахіні лёгкім голлем*
*трывожных ракіт.*
*І хай кружыць вірамі*
*пад чаўном*
*і над намі*
*гэта сумная песня*
*і чысты блакіт.*

## Каменная валошка

*Над бухтай*
*у Крыме*
*пажухлыя травы*
*сплываюць у дыме,*
*што з кратара*
*лава*
*па схілах уніз,*
*дзе прыбой ля падножжа.*
*Нібы альпініст,*
*ля аблок*
*асцярожна*
*бліскучы каменьчык,*
*што нёс я ад мора,*
*паклаў на вятрысты*
*магільны пагорак,*
*як некалі*
*некім*
*заведзена.*
*Тут*
*паэт пахаваны,*
*і прышлы ўвесь люд,*
*што едзе да сонца і мора*
*улетку,*
*нясе камяні на курган,*
*нібы кветкі.*
*Між донных каменняў*
*на горнай вяршыні*
*убачыў пляскачык я*
*з надпісам дзіўным:*
*«З Хойнікаў дзеці, —*
*пякло даланю, —*
*да мора прыехалі*
*упершыню.*
*Лета канчаецца.*
*Заўтра дзень ростані.*
*Жнівень. Восемдзесят шосты».*

* * *

*Тут мора гуло Герадота…*
*Няўжо,*
*дзе дубровы,*
*гуло?..*
*Гуло!*
*Размывала!*
*А потым?*
*А што пасля мора было?..*

*Ляжу…*
*Раскашую…*
*Не гора…*
*І гэта прытрызніцца мне*
*на дне Герадотава мора:*
*Раскоша бывае на дне…*

## На ўлонні

*Ля ракі —*
*птушыны звон ад лесу.*
*На мураўцы добра маладой.*
*З-пад кустоўя*
*нырцане гарэза,*
*ды хапае дзевак пад вадой.*

*Гэта так…*
*Палохае…*
*Без гвалту.*
*Самі дзеўкі могуць гвалтануць!*
*Тут багата звычаяў і жартаў.*
*Проста ўсё,*
*як проста і жывуць.*

*Гарады…*
*У іх свае выгоды.*
*На сяле няма такіх выгод.*
*Ды затое тут —*
*сярод народу!*
*Прасвятляе кажны дзень народ!*

*У палях піжонам не паходзіш.*
*Не парушыш вельмі дамастрой.*
*А інакш скажуць у народзе:*
*— То прыблуда. А ніяк не свой!..*

## Лысагорац

*Бяру ў рукі кнігу…*
*Часопіс гартаю…*
*— Адкуль Ваша прозвішча, аўтар? —*
*Гадаю.*

*…Стадольнік…*
*Стадола?..*
*Сто долей, магчыма?..*
*Багата гадоў і дарог*
*за плячыма.*

*Як старац, паволі*
*пад хмарай узбор'я*
*ідзе поўны думаў*
*па Лысагор'і.*
*малыя глядзяць на яго,*
*як на дзіва…*
*Тут столькі паэтаў вялікіх*
*хадзіла!..*
*І, як напамінак пра дух іхні*
*вольны,*
*гамоніць з вятрамі*
*Іване Стадольнік.*

* * *

*Ну, якой не была б дарога, —*
*хай шчадротная,*
*хай у журбе, —*
*на цябе аніхто не падобны,*
*акрамя самога цябе.*

## Асцярожна! Паэт!

*Пражыўшы жыццё,*
*я мушу*
*прызнацца на сталай мяжы:*
*Паэты —*
*ранімыя душы.*
*Кожны,*
*іх беражы!*

Фота Кастуся Дробава



## Трапенне

*— А ты мужык?!*
*А ты мужык?*
*А як мужык —*
*на тое:*
*Ну, дай мне жыць!*
*Спакойна жыць.*
*І не звані мне болей.*

*…Стаю пад небам…*
*Цішыня…*
*А свет жыве,*
*між іншым.*
*І ў гэтым свеце*
*ты і я*
*так проста разышліся?..*

* * *

*Чытаеце вершы мае…*
*Як вобраз?..*
*Як склад?..*
*Падабаецца?..*
*Ды не, інтарэсы свае.*
*Усё пра сябе шукаеце?*

*Дарэмна, сяброўка.*
*Дарма.*
*Зірні:*
*закіпае аселіца.*
*Там нашы сляды замяла*
*у гуле пчаліным*
*мяцеліца.*

* * *

*Калі ля вяршыняў стаю, —*
*Каўказ, ці Памір, ці Карпаты, —*
*вусціш у сэрцы таю*
*ад велічы глыбаў узнятых!*

*Бачу вяршыні тае ж,*
*у волатнай велічы горы,*
*з працы калі ідзеш*
*з валізкамі,*
*цяжка,*
*у зморы.*

Кастусь ЖУК

## Бяда

*Паляць грудзі мне вогнівам*
*скруха, адчай —*
*І штоноч*
*я крычу ад кашмарнага сну.*
*Родны край, любы край,*
*ты мяне прабачай,*
*што бяду тваю*
*сэрцам не захінуў.*
*Спудна стукае ў скроні —*
*набатам! —*
*жуда,*
*Працінае да болю,*
*вярэдзіць душу.*
*Чую: прашчур варочаецца*
*на кладах,*
*Праз магільныя травы*
*адчуўшы жуду.*
*Бачу: ў вёсках сіротна*
*стаяць жураўлі,*
*Плачуць зернем*
*няжатыя ў зоне жыты,*
*А камбайны не йдуць*
*і не йдуць на палі…*
*І не вяжуцца думкі,*
*што немачны ты*
*Перад гэтай стыхіяй,*
*лядашчай, як мор,*
*Перад гэтай атрутай,*
*нябачнай зусім.*
*Тут на гора*
*не быў і ў вайну недабор, —*
*Гора й зараз*
*прайшлося па Белай Русі.*
*Ад някошаных траў*
*волка пахнуць лугі,*
*Па начах — бэры звоняць*
*трывожна ў садах…*
*Край палескі,*
*край сэрцу майму дарагі,*
*Ты сабою прыкрыў*
*страшны ядзерны жах.*
*Знаю: ты ажывеш,*
*але запульсуеш…*
*Ад няпрошаных дум —*
*не схавацца нідзе, —*
*Будзе моцна балець,*
*будзе доўга балець*
*Гэта скрушная памяць*
*у сэрцах людзей.*

Ірына КАСЯНКОВА

## Я прашу…

*Я прашу цябе, Бог: адхілі*
*Ад маёй Беларусі пакуты,*
*Як дачушку, яе прытулі,*
*Каб ад гора не стала сагнутай.*

*Я прашу, каб мой любы народ*
*Не гарэў у ваенным пажары,*
*А Чарнобыля жудасны год*
*Не забраў больш ніводнай ахвяры.*

*Хай жа белыя пары буслоў*
*Прылятаюць у родныя вёскі,*
*І няхай кучаравяцца зноў*
*На грудочку сяброўкі-бярозкі.*

*Я прашу цябе, Бог: назаўжды*
*Захавай для нашчадкаў крыніцы,*
*Каб празрыстай і чыстай вады*
*Нашы дзеці змаглі напіцца.*

*Я прашу цябе, Бог!*

Янка ЛАЙКОЎ

* * *

*Безаблічны нашчадак ілжы*
*і адвечных сумненняў поўны,*
*я іду, а за мной міражы*
*адбіваюцца ў прорве поўні.*

*І не збочыць са шляху мне,*
*горкі смак не спазнаць прычасця,*
*не здзівіцца, калі міне,*
*не крануўшы, імгненне шчасця.*

*Лёгкай думкай у ноч сысці,*
*знесці ў змрок за сабой цыгарэту,*
*познім вераснем перакасціць,*
*блаславіць той кавалак лета.*

*Зніклі зоркі, знікае дым,*
*сыпкі морак стамляе вока.*
*Я іду, а за мной — палын*
*рассцілаецца сном далёкім.*



Павел САКОВІЧ

# Камандзіроўка

*Апавяданне*

Іван Яўцеевіч Чыгрын адразу пасля майскіх святаў выпісаў камандзіроўку ў самы далёкі раён вобласці. Чыгункі туды не было, аўтобус адпраўляўся позна, і Чыгрын вырашыў паехаць на службовай машыне.

Выехалі рана. Ва ўмоўленым месцы падабралі загадчыцу аддзела Галіну Мікалаеўну Бубовіч. Іван Яўцеевіч узяў яе, таму што сам ён заняў пасаду нядаўна, а Бубовіч была адной з самых вопытных работніц…

Дзень быў сонечны, цёплы. Уздоўж шашы распусkаліся дрэвы, пачынаў гусцець паўраскрытай лістотай хмызняк. На адхонах скрозь жоўтыя доўгія космы мінулагодняй травы там-сям прабівалася маладая. Пра работу гаварыць не хацелася. Галіна Мікалаеўна радасна войкала, убачыўшы прыгожую мясціну. Чыгрын ахвотна слухаў яе і сам падоўгу не мог адвесці вачэй ад краявідаў. Праз дзве гадзіны язды Бубовіч напомніла:

— Ой, загаварыліся, а ўжо час абедаць.

— Можа, у рэстаран заедзем ці кафэ якое? — няўпэўнена спытаў Чыгрын.

— Што вы, тут паблізу нічога няма. Але я захапіла бутэрброды. І піцво ёсць…

Бубовіч счакала крыху і кранула вадзіцеля за плячо:

— А ну, Алесь, сцішай ход. Тут будзе адно месцейка. Я яго даўно аблюбавала… Во-во, сюды з'язджай!

Машына скацілася з невысокага адхону і спынілася на паляне. Яе абступалі дрэвы, кусты альхоўніку. Лёгкі ветрык шапацеў дробнай бліскучай лістотай, утвараючы першы «зялёны шум». Агледзеўшы паляну, Галіна Мікалаеўна разаслала посцілку, узяла сумку і дастала з яе бутэрброды, яйкі, агуркі, тэрмас з кавай… Усё было смачна, і Чыгрын з Алесем пахвальвалі гаспадыню. Калі паелі, Бубовіч сабрала посуд, а Алесь змёў у кучу папяровыя сурвэткі, скарынкі хлеба, яечныя шалупінкі, загарнуў іх у паперу, дастаў запалкі.

Газета задымілася, успыхнула, і хутка прагны агонь пачаў перапаўзаць на кусцікі сухой леташняй травы, разбягацца на дзясяткі малых агеньчыкаў. Ледзь прыкметныя ад яркага сонца, яны пачалі разбягацца па крузе, нібы хваля ад каменьчыка па вадзе. Чыгрын адразу адчуў небяспеку.

— Тапчы! — загадаў ён Алесю. — Хутчэй тушы, а то не паспееш!

Іван Яўцеевіч сам пачаў паспешліва таптаць агеньчыкі нагамі. Ды дзе там! Яны, нібы чарцяняты, то знікалі, то нечакана з'яўляліся ззаду, збоку, і Чыгрын не паспяваў тушыць іх.

Алесь таксама скакаў і тупаў, нібы «брэйкаваў» на танцавальнай пляцоўцы. Ён скінуў пацёрты скураны пінжак і пачаў махаць ім, разганяць агеньчыкі налева-направа, але яны ажывалі, успыхвалі зноў. Іван Яўцеевіч раптам, успомніўшы нешта, кінуўся да машыны, адчыніў багажнік, выцягнуў рыдлёўку. Аднак яна была тупая, нязручная, чаплялася за быллё. Агонь хутка распаўсюджваўся ва ўсе бакі.

— Хутчэй, бо загарыцца машына! — паклікала раптам Галіна Мікалаеўна. Яна паказвала на полымя, якое набліжалася да легкавушкі.

— Мы не спынім агонь, не справімся, — разгублена прызнаў Чыгрын. — Яшчэ машыну спалім… Паехалі адсюль! — скамандаваў ён і рашуча адчыніў дзверцы.

Машына выехала на шашу. Чыгрын адчуў, што ў ім расце глухое раздражненне. «Стары дурань! Стаў, зіркачы вылупіў, зачараваўся. А гэты… смаркач! З запалкамі не нагуляўся. Відаць, падлеткам шмат чаго паліў». Стрымліваючы сябе, строга загарыў:

— З-за цябе ўсё… Герастрат знайшоўся. У гісторыю трапіць хочаш?

Чыгрын ніяк не мог супакоіцца.

— А што ты за вадзіцель такі: ні вады, ні вядра, нічога! Адна рыдлёўка-ламачына…

Алесь раптам рэзка затармазіў:

— Іван Яўцеевіч, ёсць!

— Што… ёсць? — здзіўлена перапытаў Чыгрын.

— Усё! Вядро…

— Не хлусі. Ніякага вядра няма! — умяшалася Бубовіч.

— А яно ў куточку, сплясканае… з брызенту.

— Чаго ж маўчаў? Я там і канаву бачыла.

— А ў мяне яшчэ вогнетушыцель ёсць. Там, ззаду, пад коўдрай…

— Ну, малайчына, успомніў, — з'едліва пахваліў Чыгрын.

— Іван Яўцеевіч, гэта ад хвалявання ўсё. Памяць спаралізавала.

Хвіліну-другую ўсе маўчалі.

— А можа, вернемся? — няўпэўнена прапанавала Бубовіч. — Каб не думалася. Цяпер жа ў нас ёсць чым тушыць. Давайце вернемся, Іван Яўцеевіч.

— Вяртацца — дрэнная прыкмета, — павагаўшыся, сказаў Чыгрын. — Позна ўжо. Толькі б далей, на лес не пайшло.

— Ды наўрад, — пачаў супакойваць Алесь. — Да лесу там далекавата. А можа, хто агонь і без нас патушыць ці ён сам захлынецца неяк…

— Ага, чакай, захлынецца, — раздражнёна буркнуў Чыгрын. — Агонь у лесе — як ліса. Прабярэцца — не ўгледзіш… А тут яшчэ вецер узняўся. Падхопіць вогненны шматок, перакіне ў лес і ўсё — бяда!

Іван Яўцеевіч з трывогай пазіраў на дрэвы, зараснікі хмызняку. Нарэшце з'явіліся хмары. Адна з іх, цёмна-шэрая, доўгая, засланіла сонца. Чыгрын спачатку падумаў, што гэта цягнецца адтуль шлейф дыму.

Раптам справа з'явіўся блакітны дарожны ўказальнік: «Да паста ДАІ — 5 км». Іван Яўцеевіч уявіў, як здаравяка-старшына выйдзе на сярэдзіну шашы, спыніць іх, потым пачне марудна правяраць вадзіцельскія дакументы, агледзіць машыну, папросіць паказаць багажнік…

— Стой, — загадаў ён Алесю.

Той з'ехаў на абочыну, затармазіў. Чыгрын выйшаў з машыны, адчыніў багажнік.

— Так і ёсць. На рыдлёўцы зямля, а побач — абпаленая ануча. Вазьмі рыдлёўку, — звярнуўся ён да вадзіцеля, — памый у лужыне.

Іван Яўцеевіч узяў анучу, аднёс далей ад дарогі, схаваў у кустах. Перш чым сесці ў машыну, праверыў, ці чыста вымыта рыдлёўка.

Калі машына кранулася з месца, Чыгрын спытаў у Алеся:

— А калі ДАІ нешта ведае? Нас жа многія маглі бачыць…

— Чаго баяцца? Ехалі па шашы, бачым — гарыць. Спыніліся, хацелі патушыць… А рыдлёўку дарэмна памылі, — зазначыў Алесь. — Што мы там былі, ніяк не ўтоіш: мы ж сляды на паляне пакінулі!

— Ага, — пагадзіўся Чыгрын. — Мала што наслядзілі, дык яшчэ і дымам прапахлі. А ці паверацць нам, што мы толькі тушылі, а не падпальвалі? Не, тут трэба мець алібі. Якое? Што мы не маглі, разумееце, не маглі падпаліць. Дык вось, пра алібі… Давайце разбяромся. Першае, хто з нас курыць? Я — не, вы, Галіна Мікалаеўна, таксама. Ну, а ты, Алесь, паліш?

— Куру, — панура прызнаўся той. — Толькі рэдка, з дзяўчатамі.

— Ладна. Дзе запалкі?

Алесь дастаў карабок з кішэні.

— Гэта ўсё?

— Во, цэлы блок яшчэ… Жонка прасіла.

Чыгрын забраў запалкі, загадаў спыніцца і зноў, як і ў мінулы раз, падаўся ў гушчар. Праз колькі хвілін ён вярнуўся і далажыў:

— Пад мох схаваў. Цяпер адно казаць трэба: не курым — і запалак няма. Ну ўсё, паехалі.



*Калаж Вікенція Пузанкевіча*

Але чым менш заставалася да паста ДАІ, тым больш узрастала трывога. Версія версіяй, а што, калі пачнуць правяраць, удакладняць дэталі?

Да яго зноў падступіла пачуццё вострай незадаволенасці і нават злосці. На тую ж Бубовіч, якая захацела прыпыніцца на тым памятным для яе месцы, на таго ж Алеся з яго дзіцячай паспешлівай звычкай чыркаць запалкай. Але больш за ўсё ён злаваўся на сябе, на свае паводзіны. Для яго такая легкадумнасць — недаравальная. Не так даўно заняў пасаду — і вось, на табе! Чыгрын злаваў на сябе і за тое, што нерваваўся, мітусіўся з гэтай рыдлёўкай, запалкамі… Магчыма, ён проста баіцца? А хіба ён так ужо вінаваты? Ва ўсякім разе, менш за гэтых вось, побач… І тут Іван Яўцеевіч з прыкрасцю ўспомніў, што якраз ён загадаў усім сесці ў машыну і ўцёк з пажару. Ён уяўляў: агонь дасягнуў ужо лесу, забушаваў у соснах. Чыгрыну зрабілася горача, нібы ад блізкага вогнішча, і нават пот выступіў на твары. З нецярпеннем пазіраў Іван Яўцеевіч на цьмяныя хмары, чакаючы, калі ж, нарэшце, пойдзе той дождж…

Наперадзе паказалася высокая, падобная да галубятні, будка ДАІ. Каля яе, перацягнуты шырокім рэменем, хадзіў туды-сюды аўтаінспектар.

Нечакана Галіна Мікалаеўна заварушылася на сваім месцы, учапілася рукамі за спінкі пярэдніх крэслаў:

— Ой, спыніцеся! Вяртацца трэба. Здаецца, там, на палянцы, я звязку ключоў згубіла. Ад кватэры, дачы, кабінета…

— Успомнілі, — з'едліва сказаў Чыгрын.

— Яны ў мяне з сумачкі выпалі, — апраўдвалася Бубовіч.

Алесь спыніў машыну, запытальна паглядзеў на Чыгрына. Той паморшчыўся, нібы ад зубнога болю, паглядзеў на пункт ДАІ, рашуча махнуў рукой:

— Давай, Алесь! Будзем вяртацца.

Алесь рвануў з месца, рэзка крутануў баранку. Неўзабаве іх машына зноў спынілася ля той паляны. Толькі пазнаць яе цяпер было цяжка. Счарнелая, яна дымілася пад слоем попелу. Агонь прапоўз уздоўж шашы на некалькі дзясяткаў метраў. Наступаў ён вузкай паласой і памалу ўжо выдыхаўся…

На гэты раз Чыгрын, Алесь і Бубовіч дзейнічалі спрытна, зладжана і хутка агонь патушылі. Іх рукі, твары і вопратка былі перапэцканы зямлёй і сажай. Іван Яўцеевіч накіраваўся да канавы, з якой толькі што бралі ваду. Раптам яму на твар пырснула некалькі халодных кропель. Ён узняў галаву і прама над сабой убачыў чорную хмару, якая ледзьве не чаплялася за вершаліны дрэў… Нечакана бліснула маланка, грымнуў гром. Ён, здавалася, страсянуў наскрозь усю хмару, і з яе, нібы слівы з дрэва, пасыпаўся буйны град. Але ніхто не кінуўся да машыны. Толькі Бубовіч, войкаючы, прыкрыла галаву рукамі. Найбольш дасталася ад градабою аблыселаму Чыгрыну. Ён крывіўся і прыгаворваў:

— Давай, давай! Сып, лупі, так мне і трэба…

Затым пайшоў дождж, і Бубовіч хуценька села ў машыну. Ужо адтуль, праз адчыненыя дзверцы, незадаволена кінула:

— Ну дзе гэту хмару чэрці насілі! Каб хоць крышачку раней, а так во перапэцкаліся, намоклі…

— Усё правільна, — не пагадзіўся з Бубовіч Чыгрын. — І чэрці тут ні пры чым. За грахі плаціць трэба… Дарэчы, — спахапіўся ён, — што ж вы пра ключы маўчыце? Ну як, знайшліся?

— Так, так, знайшліся, — паспешліва і радасна пацвердзіла жанчына. — Дзякуй вам, што вярнуліся…

Іван Яўцеевіч уважліва паглядзеў на яе.

— Не, даражэнькая, гэта вам дзякуй. Што ўспомнілі…

Бубовіч запытальна паглядзела на яго, але Чыгрын па-ранейшаму стаяў, узняўшы твар угару, і знізу, з машыны, нельга было распазнаць, сур'ёзна кажа ён ці жартуе…

# Вёў Святы Бог...

Мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч распавёў пра падзеі, якія выйшлі на першыя палосы газет і прыцягнулі ўвагу мас-медыя ўсяго свету; пра распаўсюджванне веры, адносіны да кнігі і сучаснае жыццё.

Ірына ТУЛУПАВА

**— Ваша Эксцэленцыя! Мы сустракаемся з Вамі ў час, калі каталіцкія вернікі вітаюць адно аднаго словамі «Хрыстос уваскрос!» і адказваюць: «Сапраўды уваскрос». Але і да Вялікадня, і пасля гэтага дняназіраецца вялікая ўвага да Касцёла — у сувязі з падзеямі, якія ў ім адбываюцца. Мы можам сёння гаварыць пра павелічэнне цікавасці да рэлігіі і рост рэлігійнай свядомасці?**

— Сапраўды, такіх падзей было шмат. І яшчэ нямала іх наперадзе. Адна з важных, пра якую шмат пісалі, — адрачэнне, сыход з пасады Папы Бенедыкта XVI. Амаль 600 гадоў такога не было ў гісторыі касцёла, хаця кананічнае права гэта прадугледжвае. Але адразу з'явіўся ажыятаж у прэсе, пачаўся пошук нюансаў. Такая, відаць, журналісцкая праца — прадаць матэрыял. А потым праходзілі выбары Папы. Атрымалася, што найбольш верагодныя кандыдаты не прайшлі. Адразу пасля абрання Папы я сустракаўся з некаторымі кардыналамі, якія бралі ўдзел у канклаве. Яны не могуць паведамляць, як там што адбывалася, але са здзіўленнем падкрэслілі: «Святы Бог так вёў, што не было іншага выйсця!» Калі ў мяне пытаюцца, чаму ж ні адзін фаварыт не стаў Папам, я адказваю: гэта быў фаварыт журналістаў, фаварытам Святога Духа быў іншы (*смяецца*).

А наконт інтарэсу: вонкавы ён ці сведчыць пра цікавасць да рэлігіі... Напэўна, ёсць і тое, і другое. Але найважнейшае тое, якую ролю ў жыцці сучаснага свету адыгрывае Апостальскі пасад. Калі на інтранізацыю прыехала больш як 130 афіцыйных дэлегацый і іх узначальвалі прэзідэнты, прэм'еры, то гэта пра штосьці гаворыць! Гэтыя людзі не заўсёды паміж сабою маюць добрыя кантакты, але сядзелі побач і адзін аднаму падавалі руку. Рэлігія патрэбна чалавеку. Без яе, без духоўных, хрысціянскіх каштоўнасцей сёння немагчыма выбудаваць свет.

Цікавая рэч: Папа толькі выйшаў на балкон базілікі Святога Пятра і адразу папрасіў: «Вы маліцеся за мяне!» Усе чакалі, што ён будзе благаслаўляць... Можа, хто не ведае: у Папы пасля абрання пытаюцца, ці згодны ён быць на пасадзе. Калі згодны, ідзе ў пакой, які называецца пакоем слёз, апранаецца ў белыя адзенні. А слёзы — таму што абраннік разумее, які крыж бярэ на свае плечы.

Тут бачны кірунак пастаральны, сацыяльная праца. Папа паходзіць з Лацінскай Амерыкі. Там ёсць вельмі багатыя людзі, але і шмат бедных. Я, працуючы ў Расіі, ведаў святароў з Лацінскай Амерыкі. Некаторыя дзівяцца ўчынкам Папы. Вось, ногі амываў вязням у Вялікі чацвер... Я меў магчымасці сустракацца з ім некалькі разоў: вельмі просты чалавек! Менавіта прастатою ён захапіў свет.

**— У працэдуры абрання ёсць пэўныя атрыбуты — як белая пара з трубы, калі Пантыфік абраны... Але ж галоўнае — што нешта вельмі важнае адбываецца ў духоўнай сферы. На вашую думку, які кірунак пазначыўся ў яе развіцці?**

— Сёння галоўнае — евангелізацыя. Але мне падаецца, што яна найбольш развіта якраз у Лацінскай Амерыцы. Папа кажа: мы павінны выйсці па-за будынак касцёла. Гэта і ў нас у Беларусі патрэбна. Мы цешымся з таго, што шмат людзей у касцёле, аднак ветры секулярызму і сюды прыходзяць. І ў гэтым сэнсе нам трэба пераняць вопыт Папы: праводзіць евангелізацыю праз сацыяльную працу, праз дабрачыннасць. Бо калі мы робім людзям штосьці добрае, то не толькі дапамагаем ім быць апранутымі, даём лекі, кормім, але і тым самым нясём Евангелле. Гэта адзін з новых напрамкаў.

**— У Папы Францішка адзначылі і яшчэ адну рысу: выбар імя, вельмі блізкага беларускаму народу...**

— Амерыканскі каталіцкі журналіст Джон Ален у сваім блогу напісаў: «Хто выйграў канклаў? — Святы Францішак». Хрыстос паклікаў яго, каб будаваў Касцёл. Менавіта Францішак. Ён, можа, таму і распачынае адбудову прастатой, малітвай, а не загадамі...

**— Мінулы раз мы сустракаліся з Вамі ў 2011 годзе. Тады ж адбылася невялічкая, але вельмі значная падзея ў культурным жыцці: у Ерусаліме з'явілася ў храме шыльда з малітвай «Ойча наш» на беларускай мове. Можа, былі яшчэ падзеі міжнароднага значэння? Наколькі вядомы ў свеце беларускі Касцёл?**

— Ён вядомы, але трэба, каб быў больш вядомы. Гэта адно з маіх заданняў. Калі мы кудысьці едзем, то не толькі разважаем над праблемамі сусветнага Касцёла, але таксама гаворым і пра Касцёл у Беларусі. Згадайма мінулагодні Сінод па евангелізацыі. Тры тыдні былі побач трыста пяцьдзясят біскупаў, а яшчэ прысутнічалі і эксперты. Зразумела, мы размаўляем на заяўленыя тэмы, кожны мае даклад. Але ёсць і сустрэчы ў кулуарах, калі адзін у аднаго пытаюцца: «А як у вас?» І калі мы гаворым, што ў нас людзі ідуць пешшу ў Будслаў — ведаеце, амерыканцу сказаць такое — гэта для яго нешта новае, пра што ён не чуў! Вядома, Беларусь, як Расія і Украіна, — посткамуністычная краіна, дзе лічаць, што святыні знішчаны. А ў нас у Будслаў 30 тысяч людзей прыходзіць — гэта ўздымае прэстыж і Касцёла, і краіны. Ведаюць пра нас шмат, але трэба, каб ведалі больш. Для гэтага працуе і наш сайт *Catholic.by* на розных мовах.

Зрэшты, сёлета з вялікіх падзей нас якраз чакае 400-годдзе прыбыцця цудоўнага абраза Маці Божай у Будслаў. Мы рыхтуемся да свята, і тут нам вельмі шмат дапамагаюць дзяржаўныя ўлады. Нават выязную сесію аблвыканкама мелі разам са спадаром Барысам Батурам і намеснікам міністра культуры. Плануем устанавіць спецыяльны памятны крыж. Урачыстасці чакаюцца 5 — 6 ліпеня. Гэта будзе не толькі рэлігійны фэст, а нацыянальны. Спадзяёмся, што прыбудзе легат (пасланнік) ад Папы.

Вы згадалі Святую зямлю, малітву на беларускай мове ў Ерусаліме. Але ёсць шмат іншых месцаў, дзе можна штосьці зрабіць. Мы ведаем, да прыкладу, што такое Назарэт — гэта пачатак ажыццяўлення Божага плану збаўлення. Там ёсць базіліка Звеставання, а ў ёй, вакол яе вельмі шмат абразоў Божай Маці. Розныя народы іх ставяць. Ёсць украінскі, літоўскі і латышскі абразы. Мы таксама атрымалі дазвол і цяпер працуем над праектам. Гэта будзе абраз Божай Маці Будслаўскай, выкананы ў стылі мазаікі. Кампазіцыя задуманая памерам прыкладна 2 метры на 70 сантыметраў. Наверсе не плануецца размясціць абраз Божай Маці, а ўнізе — базіліку з надпісамі.

Цяпер у нас адбываецца перэгрынацыя копіі абраза Божай Маці Будслаўскай. Яна завершыцца акурат на Будслаўскі фэст. А ў чэрвені — жніўні адбудзецца перэгрынацыя рэлiквіі Святой Тэрэзы. Беларусь стане 76-й краінай свету, якая прыме гэтыя рэліквіі. Перад беларусамі рэлікварый з парэшткамі святой ужо прымалі ўсе нашы суседзі, а таксама жыхары ЗША, Аўстраліі, Філіпін, Бразіліі, Ірака, Лівана, Сейшэльскіх астравоў.

**— Сёлета ва ўсім свеце адзначаецца таксама 1700-годдзе Міланскага эдыкту, пасля чаго пачалося паступовае станаўленне хрысціянства ў якасці дамінуючай рэлігіі ў тагачаснай Рымскай імперыі. У якіх умовах існуе хрысціянства сёння? З якімі складанасцямі сутыкаецца?**

— Пазіцыі хрысціянства моцныя. Але ў той жа час мы бачым вялікае супрацьстаянне хрысціянству. Яно становіцца адной з найбольш праследуемых рэлігій. Многія біскупы з краін Афрыкі, Азіі занепакоены: хрысціянам у некаторых рэгіёнах няма месца. Праследаванне — адна справа. Другая — адмова ад хрысціянскіх каранёў, ад вучэння. Сёння шмат якія краіны Еўропы прымаюць законы пра гомасексуальныя саюзы з правам усынаўлення дзяцей; аборты і эўтаназія ўжо сталі нармальнай з'явай. Чалавек становіцца не такім праўдзівым хрысціянінам. Ён пахрышчаны, а што далей? Колькі людзей прыходзяць асвяціць яйкі ў Вялікую Суботу! Каб да нас кожную нядзелю так хадзілі... Крыж павінен быць у сэрцы чалавека. Некаторыя людзі кажуць, што Божы закон, Божае права абмяжоўвае свабоду чалавека. Але я заўсёды прыводжу прыклад: калі мы вядзём аўто і пад'язджаем да скрыжавання дарогі, а там чырвонае святло на светлафоры, то спыняемся. Мы ж не кажам, што абмяжоўваецца свабода, бо ведаем, што можа здарыцца. Тое самае павінна быць і ў духоўным жыцці: «Што можа здарыцца?»

Міланскі эдыкт — гэта ў нейкім сэнсе рэвалюцыя ў рэлігійным жыцці. Бо хрысціянства атрымала роўныя правы з іншымі рэлігіямі і пачался яго буйное развіццё.

**— Цяпер гаворыцца пра будоўлю чатырох новых касцёлаў у Мінску: у мікраraёнах Малінаўка, Серабранка, Чыжоўка і Каменная Горка. Ёсць патрэба?**

— Ёсць. У наш час у цэнтры сталіцы ёсць тры ці чатыры касцёлы. А што ў спальных раёнах? Трэба, каб касцёлы былі блізка ад месца, дзе жывуць людзі!

**— Біскупскі крыж мітрапаліта Кандрусевіча супадае з крыжам, які носіць Папа Францішак. Увогуле, мы вельмі мала ведаем пра каноны, паводле якіх яны выпрацоўваюцца. Ёсць пэўныя абавязковыя элементы, якія павінны ўлічвацца пры вырабе біскупскага крыжа і пажаданні, якія выказваюцца майстру тым, хто яго будзе насіць?**

— Напэўна, я магу замовіць сабе крыж у майстэрні. Але такога ніколі не чыніў. Усе крыжы мне падараваныя. Гэты, просты, падарыў мне кардынал Анджэла Садан, калі яшчэ быў арцыбіскупам. Сённяшні патрыярх Кірыл і мітрапаліт Філарэт падарылі мне вельмі прыгожыя крыжы. Маю памяць ад Бенедыкта XVI і ад Яна Паўла ІІ. А гэтакі крыж я ўбачыў на Францішку, калі ён паявіўся на балконе. Цяпер у мяне ніхто не пытаецца, чаму я такі сціплы крыж нашу (*смяецца*).

**— Якой літаратуры, на вашу думку, сёння неабходна аддаваць перавагу? Што любіце чытаць самі? Як вызначаеце ролю кнігі ў сучасным свеце?**

— Часу застаецца толькі каб пачытаць рэлігійную літаратуру. Люблю гістарычныя кнігі. Вядома, сёння электронная кніга больш месца займае, асабліва ў жыцці моладзі. Але калі ўзяў выданне ў рукі — маеш рэч. Таксама і газету — ёсць пах паперы! Можа, мы з такога пакалення...

**— На якіх мовах чытаеце?**

— На беларускай, рускай, англійскай, літоўскай, італьянскай, польскай.

**— А яшчэ ўсё часцей можна сустрэць інфармацыю пра спаборніцтвы рэлігійных дзеячаў па гарнальжным спорце, па футболе. Гэта — даніна часу? Ці спроба ўвайсці ў сучаснае жыццё?**

— Ведаеце, я нарадзіўся на Гродзеншчыне, у вёсцы Адэльск. Калі ў нас з'явіўся новы святар, ён адразу пачаў збіраць моладзь. Маладыя выхоўваліся ў духу Евангелля. І вось ён кажа: «Пойдзем у футбол гуляць!» Гэта другая палова 1950-х гадоў. Хто з нас тады чуў пра футбол? Я не чуў. А ён усё ведаў: як разметку зрабіць, вароты паставіць — і мы пачалі гуляць. Гэта цягнула як магніт! І ў шашкі, шахматы можна было паспаборнічаць. Спраўў ён добра, часам браў гітару. Гэта таксама адзін са спосабаў евангелізацыі.

Футбол сярод святароў Беларусі не так шмат праявіўся, а на Захадзе гэта нармальная з'ява. Мы праводзілі ў снежні мінулага года ў Лідзе чэмпіянат Беларусі па футболе сярод святароў. Далучылі да спаборніцтваў яшчэ дзве семінарыі. Гулялі таксама з міліцыяй у Іўі. Прайгралі! Калі нам удасца, марым правесці ў наступным годзе ў Мінску чэмпіянат Еўропы па футболе сярод святароў. Гэта таксама папулярызацыя Касцёла.

Дзесьці я вычытаў, што Папа, акрамя таго, што ездзіў у метро, на грамадскім транспарце, яшчэ і падарожнічаў на ровары. І я вечарам езджу на веласіпедзе. Хуценька знайшоў фота — мы ў мінулым годзе ехалі ў Будслаў — і адаслаў паказаць, што і ў нас любяць веласіпеды. Ды запрасіў яго на нашу веладарожку.

**— Значыць, ёсць спадзяванні, што Папа наведае Беларусь?**

— Ведаеце, надзея памірае апошняй (*смяецца*). Чакалі Яна Паўла ІІ, чакалі Бенедыкта XVI — не выйшла. Але Бог любіць Тройцу — можа, што і атрымаецца. Спадзяёмся і молімся.

**— Што б вы пажадалі чытачам «ЛіМа»? Чым кіравацца ў жыцці, калі чалавеку цяжка ці, наадварот, радасна?**

— Літаратура і мастацтва нясуць прыгажосць. Яшчэ Дастаеўскі казаў, што прыгажосць уратуе свет. Толькі найперш ён казаў пра духоўную прыгажосць. Хацелася б, каб праз літаратуру, мастацтва пашыралася Евангелле і каб яно дайшло да чалавека. Каб мы будавалі сваё жыццё на хрысціянскіх каштоўнасцях. Няхай на гэта вас благаславіць Бог!



Фота Віталія Папінеўскага

*Прэзентацыя*

# Шлях у будучыню

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося адкрыццё выстаўкі «Усё для сваёй бацькаўшчыны — Беларусі». Экспазіцыя прысвечана 100-годдзю трэцяй паэтычнай кнігі Янкі Купалы «Шляхам жыцця». На выстаўцы прадстаўлены асобнікі першага выдання зборніка з дарчымі аўтографамі аўтара, перавыданні кнігі 1923 і 1935 гадоў, мастацкія творы з фондаў музея: работы Пятра Сергіевіча, Анатоля Волкава, Анатоля Александровіча, Міхася Басалыгі, скульптуры аўтарства Уладзіміра Летуна і Лейбы Робермана.**

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**



*Фрагмент экспазіцыі, прысвечанай 100-годдзю зборніка Янкі Купалы «Шляхам жыцця».*

Зборнік вершаў Купалы «Шляхам жыцця» пабачыў свет у пачатку красавіка 1913 года. Ужо 6 красавіка ў лісце да Антона Луцкевіча паэт пісаў: «Я дасылаю Вам для рэцэнзіі «Шляхам жыцця», вельмі шчыра прасіў бы Вашай ласкі даць, дзе можна, хоць маленькія отзывы аб гэтай кніжцы». І акурат праз некалькі тыдняў, 26 красавіка 1913 года, на старонках газеты «Наша ніва» была апублікавана першая рэцэнзія на зборнік. Антон Луцкевіч у ліку іншых вартасцей кнігі адзначыў вельмі ўдалую назву. На думку літаратурнага крытыка, яна сімвалізуе творчы шлях паэта.

Толькі падчас адкрыцця выстаўкі наведвальнікі музея мелі магчымасць убачыць адзін з самых каштоўных экспанатаў — рукапісны зборнік, па якім сам паэт рыхтаваў кнігу. Адметна, што менавіта з ім працавалі тэкстолагі падчас падрыхтоўкі да выдання Поўнага збору твораў Янкі Купалы. Эма Золава, літаратуразнаўца, якая ўваходзіла ў склад групы, што непасрэдна працавала над выданнем, распавяла:

— Мы пачалі падрыхтоўку да выдання першага Поўнага збору твораў Купалы ў 1992 годзе. З таго часу прайшло ўжо шмат гадоў, але цяпер, калі я прысутнічаю на адкрыцці выстаўкі, усё ўспамінаецца, усплывае ў памяці, хвалюе мяне. Рукапісная кніга «Шляхам жыцця» — асаблівая, унікальная. Яшчэ і таму, што гэта амаль адзіны ў беларускай літаратуры рукапісны зборнік, падрыхтаваны самім аўтарам. Калі мы распачыналі працу з гэтай кнігай, то вельмі хваляваліся. Уяўлялі, што да гэтых старонак дакранаўся Купала, і гэта нас так узрушвала, настройвала на дасканальнае вывучэнне ўсёй спадчыны паэта. Мы імкнуліся прааналізаваць рукапісы, бо адчувалі: гэта патрэбна, гэта абавязкова павінна быць зафіксавана. Для Купалы гэта было важна. Ён вельмі хваляваўся, калі затрымлівалася абвестка пра тое, што кніга ўжо выйшла. Магу смела сказаць, што тыя гады для мяне асабіста і для калектыву тэкстолагаў былі самымі лепшымі ў творчым плане.

*100 год кнізе*

# Натуральна і арганічна

**Сёлета спаўняецца сто гадоў, як выйшаў у свет трэці зборнік паэзіі Янкі Купалы «Шляхам жыцця». Цудоўным падарункам да юбілейнай даты стаў сумесны праект выдавецтва «Мастацкая літаратура» і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — факсімільнае выданне кнігі «Шляхам жыцця», якое графічна дакладна перадае арыгінал і робіць даступным шырокаму колу чытачоў помнік нацыянальнай літаратуры.**




**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

Упершыню выдадзены ў 1913 г. у Санкт-Пецярбургу суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца», зборнік з'яўляецца вяршынным у дакастрычніцкі перыяд творчасці паэта, знакавым не толькі ў творчай эвалюцыі Купалы, але і ў літаратурным працэсе Беларусі. «Кніжка цешыць душу кожнага шчырага беларуса. Мы можам смела казаць, што пясняр маладой Беларусі займець пачэснае месца ў гісторыі беларускага адраджэння. «Шляхам жыцця» ідзе Купала, але ў кніжцы яго відаць, што той шлях цягнецца далёка-далёка ў будучыню, і пясняр прарочым словам прымушае верыць, што ідучы сваёй дарогай, мы дойдзем, урэшце, да лепшай долі», — адзначае Антон Луцкевіч у водгуку на выданне, змешчаным у «Нашай ніве».

«Шляхам жыцця» ўключае больш як дзвесце вершаў 1910 — 1913 гадоў, шэраг перакладаў, некаторыя вершы з папярэдніх зборнікаў Купалы «Жалейка» і «Гусляр». Зборнік складаецца з сямі асобных раздзелаў («Бацькаўшчына», «Па межах родных…», «Для яе», «Наша вёска», «Сваім і чужым», «Байкі і апавесці», «Пераклады з польскай») і здзіўляе надзвычайнай жанрава-тэматычнай разнастайнасцю. Грамадзянскае гучанне публіцыстычных вершаў знаходзіцца ў арганічным сінтэзе з міфалагічным, народна-песенным пачаткам. На фальклорнай апазіцыі сонца і цемры грунтуецца ў паэта барацьба за лепшую долю Беларусі і яе пачэснае месца між народамі:

*Гэй, ты, сонца, гары*
*Ад зары да зары,*
*Ланцугі распалі.*
*Па ўсёй чыста зямлі!*

Вяршынь дасягае купалаўская пейзажная лірыка, напоўненая яркімі эпітэтамі, метафарамі, заснаваная на прынцыпе адухаўлення. Культ прыроды, вера ў невычэрпныя таямніцы зямных нетраў, духаў локусаў звязана са спецыфікай творчасці Купалы-неарамантыка, а таксама з уплывам сімвалізму, што панаваў на той час у еўрапейскай літаратуры:

*З ям вылазіць, як лунь, Вадзянік і Лясун,*
*Выпраўляюць русалкі бяседу;*
*Змей дабро цягне з пунь, пакуль крыкне пявун,*
*Пакуль поўнач не зробіць прагледу.*

Як ідэальная маральная катэгорыя паўстае ў вершах Янкі Купалы каханне. Выдатныя ўзоры інтымнай лірыкі паказвае раздзел «Для яе». «Царэўнай, каралеўнай» называе паэт сваю любоў, хоча тварыць з ёй разам «казку залатую», заіскрыцца «ў нябесным прасторы сонцам пякучым».

Шырокае кола тэм і настрояў ахоплівае апошні ліра-эпічны раздзел «Байкі і апавесці». Выкрывальная сатыра на хібы грамадства і чалавечай асобы знаходзіць удалае ўвасабленне ў байках «Мікіта і валы», «Асёл і навука», «Ігнат і п'яўкі» і інш. Дасціпнасцю і народным гумарам вызначаецца «апавяданне старога дзецюка» «Сват». Мінорную танальнасць мацюць творы пра цяжкі лёс селяніна, выкананыя ў традыцыях народных песень («За штo?», «Чатыры крыжы»). Далучае Янка Купала беларускага чытача да скарбаў сусветнай літаратуры «легендай з індыйскай кнігі Махабхарата» пра паляўнічага і пару галубкоў. Але, несумненна, галоўным дасягненнем Купалавага рамантызму з'яўляецца паэма «Курган». Узнёслая, бунтарская, яна сцвярджае духоўную веліч асобы, вызначальную ролю вялікіх мастакоў у духоўным развіцці нацыі.

Такое незвычайнае ўзрастанне суб'ектыўна-лірычнага пачатку, пашырэнне ідэйнага зместу паэзіі Янкі Купалы не магло не вымагаць пэўных зрухаў і ў форме адлюстравання думак, у тэхніцы вершавання. Разнастайнасцю прыцягвае ўвагу зборнік «Шляхам жыцця»: 24 вершаваныя памеры былі выкарыстаны Янкам Купалам. Рытма-інтанацыйныя магчымасці паэта значна ўзбагачаюцца. У чыстых формах сілаба-тонікі Купала дабіваецца цалкам натуральнага і арганічнага гучання, калі метрычныя законы спалучаюцца з фаналагічнымі. Узмацняецца ў зборніку і танічны прынцып, што садзейнічае нараджэнню беларускага літаратурнага танічнага верша.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо не першае ўзнаўленне спадчыны народнага паэта. Раней пабачылі свет факсімільныя выданні зборнікаў «Жалейка» і «Спадчына». Цешыць, што цікавасць да старажытных і рэдкіх кніг з кожным годам узрастае і заахвочвае.

# У даўняй сяброўкі юбілей

**Сяргей ПАНІЗНІК**

80 гадоў споўнілася Маі Львовіч, украінскай і беларускай паэтэсе, перакладчыцы. Яна нарадзілася 23 красавіка 1933 года ў Адэсе. Яе бацькі паходзілі з Гомельшчыны. Пасля вайны пераехалі ў вызвалены Харкаў, дзе Мая закончыла вучобу ва універсітэце і пачала працаваць у выдавецтве «Прапор». Пачынала пісаць вершы спачатку па-руску, потым па-ўкраінску. Наведаўшы радзіму бацькоў, зацікавілася беларускай літаратурай. Сустрэчы з Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Варленам Бечыкам натхнілі яе на напісанне вершаў па-беларуску. У выніку двухмоўныя былі зборнікі вершаў «У зязюльчыным барку» (2002) і «Жывая» (2008). Мая Львовіч пераклала на ўкраінскую мову дзве кнігі беларускай прозы, вершы М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, У. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Пысіна, Н. Мацяш і іншых паэтаў. Летась наша даўняя сяброўка прыслала ў Мінск сваю новую кнігу «Балагола», дзе прадстаўлены яе вершы, а таксама ўзоры яўрэйскага фальклору ў яе перакладах на ўкраінскую і беларускую мовы.

Я з Маяй Давыдаўнай знаёмы па перапісцы з 1960-х гадоў. У 70-я мы сустрэліся ў Доме творчасці «Каралішчавічы». «Дружба даўжынёю ў паўстагоддзе... // Калі ўсё-усё на свеце рушыцца, — // Дружба — не на адыходзе: // Паміж намі кружыцца», — пісала мне Мая з Харкава 2 студзеня 2011 года. З нашай паўвекавой перапіскі прапаную азнаёміцца з яе паэтычным наробкам, каб чытачы пачулі голас паважанай і дарагой для Беларусі юбіляркі.



**Мая ЛЬВОВІЧ**

* * *

*Зберагала ў душы я суніцу,*
*Прынесеную з лесу*
*Каралішчавіцкага ў святліцу.*
*Сорак год берагла,*
*А цяпер аддала*
*Вершу.*
*Хоць свайму, а шкада.*
*Бо суніцы —*
*Вершамі грашы не грашы —*
*Лепш растуць у душы,*
*А не з кніжкамі на паліцы.*

# У колерах Парыжскай камуны

Калі вам пашанцуе апынуцца ў вёсцы Каралінава, што на Пастаўшчыне, папрасіце мясцовых жыхароў паказаць сядзібу мастака Альфрэда Ромера. Давядзецца крыху прайсці пешшу, бо будынак стаіць наводдаль ад цэнтральнай вясковай дарогі, але вы дакладна не пашкадуеце: закінутая сядзіба, узімку засыпаная снегам, а ўлетку з усіх бакоў парослая зелянінай, захоўвае не толькі веліч былых гаспадароў, але і шмат таямніц — біяграфія жывапісца, скульптара, мастацтвазнаўцы і этнографа па сёння багатая на белыя плямы.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

Выстаўка, прысвечаная 180-годдзю з дня нараджэння беларускага мастака А. Ромера, праходзіць у Палацы мастацтва. Экспазіцыю складаюць творы, напісаныя падчас пленэру, які адбыўся ў кастрычніку 2012 года на Пастаўшчыне — мастакі наведалі мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю славутага земляка: самі Паставы, а таксама вёскі Камаі, Лучай і Каралінава.

Таксама праводзіліся тэматычны вечар, прысвечаны 180-годдзю А. Ромера ў раённым Доме культуры, сустрэча з ксяндзом Яцэкам Хутманам і моладдзю ў касцёле Святога Яна Хрысціцеля ў Камаях, майстар-класы з вучнямі пастаўскай гарадской дзіцячай мастацкай школы. Вынікі падвяла выстаўка пленэрных эцюдаў у Доме рамёстваў у Паставах.



Віктар Навіцкі «Сядзіба мастака Ромера», 2012 г. Палатно, алей.

У хуткім часе пабачыць свет навуковае выданне «Альфрэд Ромер».

Арганізатары нездарма вырашылі не абмяжоўвацца сталіцай: галоўная мэта мастацка-асветніцкага праекта заключаецца ў прыцягненні ўвагі шырокай грамадскасці, асабліва маладога пакалення, да імёнаў некалі знаных беларусаў, амаль забытых сучаснікамі. Такая мастацкая акцыя — добрая магчымасць аддаць даніну падзякі продкам за іх высакародную дзейнасць, тым самым умацоўваючы сацыяльна-гістарычную памяць і ўзмацняючы нацыянальна-патрыятычныя пачуцці беларусаў.

Не можа не радаваць той факт, што апошнім часам праекты падобнага кшталту не такая ўжо і незвычайная рэч: варта толькі, напрыклад, узгадаць пленэр, прысвечаны славутай Эміліі Плятэр, які праходзіў летам 2011 года на Браслаўшчыне — малой радзіме жанчыны-ваяра. Адным з арганізатараў пленэру, удзел у якім узялі такія мастакі, як М. Цыбульскі, В. Шамшур, Г. Сілівончык і інш., з'яўляўся Германавіцкі культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча. І гэты прыклад — не адзіны.

Аднак вернемся ў Палац мастацтва. Пленэр, прысвечаны 180-годдзю А. Ромера, адбыўся дзякуючы ініцыятыве мастака і мастацтвазнаўцы, прафесара кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Уладзіміра Рынкевіча. Менавіта ён з'яўляецца аўтарам і каардынатарам праекта, у якім удзельнічалі не толькі такія прызнаныя майстры, як В. Барабанцаў, М. Драненка, К. Качан, М. Мішчанка, В. Навіцкі, Ю. Платонаў, А. Суша, Г. Фядотаў, А. Цыркуноў, але і маладыя мастакі — выкладчыкі і студэнты мастацкіх ВНУ рэспублікі: А. Вырва, І. Свяніцкі, С. Акенчын, Д. Чэрамных, М. Шымбарэвіч, Ю. Чарнега. Пленэр прайшоў пры падтрымцы Пастаўскага райвыканкама, а таксама Беларускага саюза мастакоў і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.



Альфрэд Ромер «Хрыстос і сірата».

Трэба адзначыць, У. Рынкевіч не першы раз ладзіць арт-акцыю падобнага кшталту — мастак даўно займаецца даследаваннем творчасці малавядомых жывапісцаў XIX ст. У мінулым годзе ў яго «абойму» патрапіў і А. Ромер. Імя выбітнага жывапісца, рысавальшчыка, даследчыка гісторыі культуры стала вядомым не так даўно: «падняў» яго і далучыў да пантэона беларускіх мастакоў вядомы мастак і мастацтвазнаўца Леанід Дробаў у сваёй кнізе «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.».

Альфрэд Ромер — знакавая асоба ў беларускай культуры перыяду другой паловы XIX ст. Нашчадак старажытнага шляхецкага роду, адзін з найбольш яскравых прадстаўнікоў віленскай дынастыі мастакоў сям'і Ромераў, ён вывучаў права ў Віленскім дваранскім інстытуце, браў урокі жывапісу, шмат вандраваў па Германіі, Францыі, Бельгіі і Італіі. За ўдзел у паўстанні 1863 — 1864 гг. быў зняволены ў Дынабургскай крэпасці (сучасны Даўгаўпілс, Латвія), пасля — высланы ў Кастрамскую губерню. Адбыўшы пакаранне, зноў выправіўся ў падарожжа па Еўропе, вучыўся жывапісу і гравёрскаму майстэрству.

Па вяртанні на радзіму ў 1874 годзе жыў у маёнтку жонкі, Ванды Сулістроўскай, у Каралінаве. Пасля быў Кракаў, дзе А. Ромер стаў сябрам Камісіі гісторыі мастацтва Акадэміі навук, у справаздачах Камісіі апублікаваны яго праца «Польскія паясы, іх фабрыкі і знак», адзін з раздзелаў якой прысвечаны слуцкім паясам, а таксама даклад «Да гісторыі віленскай школы прыгожых мастацтваў». Зямны шлях А. Ромер скончыў на Пастаўшчыне, у маёнтку Каралінава. Пахаваны ў сямейным склепе ў касцёле святой Марыі ў Троках (сучасная Літва).

На жаль, у нашым краі вядомыя толькі два жывапісныя творы пэндзля майстра — «Пінская Мадонна» (касцёл Унебаўзяцця Панны Марыі ў Пінску) і «Хрыстос і сірата» (касцёл Святога Яна Хрысціцеля ў Камаях), факсімільныя рэпрадукцыі якіх, дарэчы, прадстаўлены на выстаўцы. Жыццё і творчасць А. Ромера сведчыць пра выключны талент мастака, вучыць нашчадкаў беззапаветнай адданасці свайму народу, яго жывапісная і графічная спадчына яскрава гаворыць пра высокі ўзровень выяўленчага майстэрства ў перыяд фарміравання прафесійнай школы мастацтва на тэрыторыі тагачаснай Беларусі.

— Я ўжо 12 год займаюся даследаваннем біяграфіі і творчай дзейнасці А. Ромера, — распавёў на адкрыцці выстаўкі ўдзельнік пленэру мастак Алесь Цыркуноў. — Творчасцю майстра зацікавіўся выпадкова, калі набыў лецішча на Пастаўшчыне, непадалёк ад камайскіх і каралінаўскіх мясцін. Сядзіба адразу прыцягнула ўвагу, а там ужо пайшло-паехала. Неяк у Камаях, у касцёле Святога Яна Хрысціцеля, звярнуў увагу на адну з выяў Хрыста, якая моцна адрознівалася ад іншых: тэматыка была рэлігійная, а вось скіраванасць — сацыяльная. Я ўсё ж такі мастак, вока ў мяне спрактыкаванае — зразумеў, што перада мной твор А. Ромера (да мяне аўтарства выявы не было вызначана). Акрамя таго, што мастак з'яўляўся ўдзельнікам паўстання 1863 — 1864 гг., давялося яму паваяваць і на баку Парыжскай Камуны: пэўны час ён жыў у Парыжы. Вось толькі ўглядзіцеся ў колеравую гаму твора «Хрыстос і сірата». Тры асноўныя — сіні, белы і чырвоны — колеры сцяга Парыжскай камуны. Мастак нездарма паставіў малога сірату на камень — ён сімвалізуе веру Хрыста, само дзіцё — збяднелы падчас паўстання народ. Зразумела, калі я «прачытаў» карціну, творчасць мастака захапіла мяне яшчэ больш. Ксяндза камайскага касцёла Я. Хутмана — таксама: пад творам ён размясціў шыльду з выявай профілю А. Ромера і інфармацыяй пра яго творчасць на дзвюх мовах — польскай і беларускай.

# Тонка-інтымна пра злодзея-філосафа

Канцэртная зала «Мінск» напоўнена гледачамі. Пустых месцаў увогуле няма. Не дзіва: з Масквы прыехаў Тэатр Рамана Віктюка. Незвычайны і яскравы, ён заслужыў любоў многіх беларускіх тэатралаў, увазе якіх гэтым разам была прадстаўлена прэм'ера «Маскарад маркіза дэ Сада» па п'есе Андрэя Максімава.

**Паліна ПЛАТАВА**

Далікатны сюжэт робіць твор нялёгкім для пастаноўкі. Паказаць на сцэне распусніка, садыста, гвалтаўніка маркіза, якім ён застаўся ў гісторыі, — рызыкоўны ход. Бо ўсё можа скончыцца пошласцю, зваротам да інстынктаў і нізкіх пачуццяў. Віктюк жа здолеў адлюстраваць жыццё распусніка тонка і інтымна.

На сцэне няма вар'яцкіх вакхалічных танцаў. Замест іх — павольныя, грацыёзнакаціныя рухі герояў на рухомай драўлянай вышцы. Увяіце: у паветры! Асабліва вылучаецца зорка тэатра, любімец публікі акцёр Дзмітрый Бозін, які выконвае ролю маркіза дэ Сада. Яго напалову аголенае цела не выглядае вульгарна. Галаўны ўбор, які ўвесь час змяняецца, — то парык раскудлачаны, то кіслотнага колеру, то нейкі чырвоны каўпак — робіць вобраз маркіза бязладным. Як і дзіўная «мяўкаючая» манера размаўляць.

Гэта — маркіз знешні. А што ў яго душы? Рэфлексія. Вострая, з салодкім самазнішчэннем. Калі на сцэне з'яўляецца інспектар Марэ (Аляксандр Дзюба), рэфлексія неймаверна ўзрастае. Таму што Марэ — гэта своеасаблівае альтэр эга маркіза. Ён кажа: «Няма болей інспектара паліцыі Марэ, як няма болей вялікага пісьменніка і філосафа маркіза дэ Сада. Ёсць адна, двуадзіная істота: кат і ахвяра, філосаф і паліцэйскі, тэарэтык і практык…» Усё змяшалася! Максімаў сапраўды закруціў сюжэт. Злучыў маркіза і інспектара дагаворам, па якому адзін іграе пакутніка ў турме (дэ Сад), а другі — распусніка ў жыцці (Марэ), каб стварыць легенду пра дзіўнага фантазёра і вальнадумца. І трэба паставіць пытальнік побач са словам «іграе». Бо ў гэтым маскарадзе сам чорт нагу зломіць.

Вось і маркіз заблытаўся канчаткова. Сапраўднае каханне да Лакосты (Людміла Пагарэлава), нянавісць да Нарэ — блытаніна павялічваецца. А тут яшчэ і бязглуздая рэвалюцыянерка (Кацярына Карпушына) са сваёй рэвалюцыяй…

Маральны разлад галоўнага героя падкрэсліваецца дэкарацыямі. Раскіданыя рознакаляровыя вёдры (менавіта з імі на нагах маркіз і з'явіўся на сцэне), падлога і вышка, што стракацяць рознакаляровымі плямамі. На задніку сцэны — малюнкі пачварных твараў у духу абстракцыянізму. У самым цэнтры — выява аголенай жанчыны. Маркіз раз-пораз закрывае іх малюнкі заслонай з галантнай карцінай нейкага дзіўнага раю. Віктюк прадумаў усё вельмі ўдала. Мабыць, толькі музыка была час ад часу занадта гучная, адцягвала ўвагу ад дзеяння. Яшчэ адзін відавочны мінус — адсутнасць антракту. Немагчыма дзве гадзіны назіраць моцную рэфлексію галоўнага героя, якая, да таго ж, выканана на высокім узроўні, і не стаміцца. Але нават з гэтымі недахопамі спектакль застаецца тонкаінтымным.

І менавіта ў такім паказе рэфлексуючага злодзея-філосафа ў прывабнай для гледача форме і заключаецца — вялікая заслуга Рамана Віктюка. Вобраз злыдня, які добра разумее, што здзяйсняе свае злачынствы, па інерцыі, каб толькі працягнуць



Раман Віктюк.

маскарад. Гэткая злая істота, якая хоча дабра і пакутуе ад свайго нападеанізму. У літаратуры такіх вобразаў шмат. Чаго варты адзін толькі Дастаеўскі са сваім Раскольнікавым ці братамі Карамазавымі. Але ж чытаюць сёння далёка не ўсё. Затое тонка-інтымную п'есу прагледзяць, мабыць, многія.

Да 60-годдзя часопіса «Маладосць»

# Скрозь успаміны

У працяг юбілейнай тэмы часопіс «Маладосць» прадстаўляе чытачам «ЛіМа» ўрыўкі з трэцяй часткі кнігі «Скрозь «Маладосць», прысвечанай гісторыі выдання. Імёны, падзеі і факты, выкладзеныя на старонках гэтай кнігі, па-першае — даволі гучныя, па-другое — адбываліся на самай справе, па-трэцяе — збольшага як быццам правераны. Хіба толькі памяць чалавечая, зацёршы адно, нешта іншае трошкі прыўкрасіла.

**Валянціна КАДЗЕТАВА:**

— Тагачасны калектыў часопіса складаўся з людзей сур'ёзных. Тым не менш усе яны тонка адчувалі і цанілі гумар. Асабліва любіў пажартаваць Алесь Камароўскі. Памятаю, мне давялося пачуць, як ён пісклявым жаночым голасам запэўніваў некага па тэлефоне, што гэта «ніякая не рэдакцыя, а лазня» і што ён — «лазеншчыца Анютка», якая просіць «не перашкаджаць працаваць».

Паклаўшы трубку, Алесь уздыхнуў і ўжо сваім сапраўдным прыродным голасам сказаў: «Вось жа ўжо надакучыў, графаман! Звоніць і звоніць!»

Аднойчы ён пажартаваў і з мяне, сказаўшы, што яму перадалі пра мой да яго інтарэс як да мужчыны. Я зрабіла выгляд, быццам сумелася, і, крыху памаўчаўшы, ціха прамовіла: «Ну, калі ўжо вы ўсё ведаеце, дык няма чаго таіцца: што ёсць, тое ёсць». Алесь насцярожана зірнуў на мяне — і сышоў па нейкіх, як ён растлумачыў, вельмі пільных справах. А пасля ў тэлефоннай размове як бы між іншым паведаміў, што ён чалавек сямейны і што сям'я ў ягоным жыцці — галоўнае. Праз нейкі час Алесь Камароўскі ўвогуле пачаў пазбягаць размовы са мною: перадаваў трубку Казлову або Гардзею. Тады я і напісала верш пад назвай «Алесь і рыжая яхідна». Пачынаўся ён так:

*Не у правінцыі ў газеце,*
*Якіх мо тысячы на свеце,*
*А у часопісе прэстыжным*
*Служыў Алесь. Быў крыху рыжы,*
*Вясёлы нораў меў, увішнасць,*
*З таго ледзь-ледзь бяда не выйшла.*
*А як было? Ў часопіс мілы*
*Адна жанчына пазваніла,*
*Была таксама крыху рыжай*
*І друкавалася ў прэстыжным…*

Далей у вершы размова ішла пра тое, што Алесь так спужаўся заляцанняў «крыху рыжай жанчыны», што ажно захварэў і перастаў хадзіць на працу. А потым зразумеў, што жанчына пажартавала…

*…і аж да столі*
*Падскочыў з радасці. Пяе,*
*Пра болькі ўраз забыў свае…*

Пасля гэтага Алесь прыйшоў да высновы:

*Што ж да жанчын да рыжых гэтых, —*
*Дык то ж яхідны, не кабеты!*

Калі я чытала свой вялікі верш у рэдакцыі, Алесь смяяўся разам з усімі, але калі Казімір Камейша параіў мне даслаць гэты твор у «ЛіМ» для 13-й паласы, усмешка з Алесевага твару знікла. Так і ляжыць той даволі вялікі верш у маім архіве.

**Леанід ДАЙНЕКА:**

— Ведаеце, дзе цяпер знаходзіцца цэнтральны офіс БРСМ? Там «Маладосць» займала чатыры пакоі. У першым сядзелі галоўны з намеснікам, у другім — рэдактары аддзелаў паэзіі і прозы, у трэцім — адказны сакратар і аддзел культуры, у чацвёртым — самым шумным! — машыністка Ларыса Пятроўна Кунько з нязменнай цыгарэцінай у роце, аддзел публіцыстыкі, тэхрэд, карэктар і мастак. Ага, ледзь не забыўся, — у саменькім падвале меўся яшчэ адзін пакойчык, дзе ў кампаніі апаратуры засядаў Валянцін Ждановіч — разумны хлопец і апантаны фатограф, які трагічна пайшоў потым з жыцця.

«Маладосць», як казалі ў тыя часы, была органам ЦК камсамола Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР. «Мы — слугі двух гаспадароў», — жартавалі маладосцеўцы. Камсамольцы, трэба зазначыць, ліберальнічалі і асабліва ў нашы рэдакцыйныя справы не ўмешваліся. Раз на тыдзень галоўны хадзіў да іх наверх на «лятучкі» ды аддзел публіцыстыкі, якім кіраваў мудрэйшы Сцяпан Іванавіч Кухараў — заслужаны франтавік, што пакінуў свой подпіс на сцяне фашысцкага рэйхстагу, — павінен быў «асвятляць» кіпучае камсамольскае жыццё. А жыццё тое біла праз край. З'езды. Пленумы. Працоўныя вахты ў гонар бясконцых рэвалюцыйных гадавінаў. Сацыялістычнае спаборніцтва. Няспынна грукатаў велізарны прапагандысцкі барабан. Сцяпан Кухараў спакойна і ўпэўнена вёў карабель публіцыстыкі па гэтым штармавітым моры, а ў ягоных блакітных вачах гарэў агеньчык лёгкай іроніі. Яму дапамагалі: чубаты, няўрымслівы, амаль двухметровы Алесь Гаўрон (меў тонкую паэтычную душу), разважлівы і добразычлівы філосаф Валодзя Саламаха.

Памятаю, узялі шэфства над саўгасам «Адраджэнне» Ганцавіцкага раёна. Тады было модна над некім шэфстваваць. На рэдакцыйнай «Волзе», якой віртуозна кіраваў малады празаік Анатоль Пензь, паімчалі на Палессе. Было на што глянуць! Самабытныя, не сапсаваныя разбэшчанай гарадской цывілізацыяй людзі — і цудоўная, велічная ў сваёй крынічнай непарушнасці прырода. «Вось адкуль, — думалася нам, — трэба чэрпаць матэрыяльныя шчадроты і духоўныя сілы».

Але й тут цякло далёка не ідылічнае жыццё.

Пажылая даярка, што ў гумовых запэцканых ботах цяжка ступала з двума поўнымі вёдрамі малака нам насустрач, раздражнёна выдыхнула, даведаўшыся, што мы журналісты, толькі адно слова: «Ілгуны». Мы сумеліся і спыніліся. Сітуацыю змякчыў Сцяпан Кухараў.

— Маладзічка, дай я дапамагу табе, — прыязна ўсміхнуўшыся, прамовіў ён і спрытна ўзяў з рук суровай паляшучкі вёдры.

**Васіль ГІГЕВІЧ:**

— Думаецца, яшчэ не надышоў час, каб мы маглі даць больш-менш аб'ектыўную ацэнку атмасферы таго жыцця, — яна, гэтая атмасфера, змушала людзей купляць кнігі і часопісы, запісвацца ў чаргу ў бібліятэках, абменьвацца навінкамі.

Што ж сабою ўяўляла тая атмасфера?

…Быў Галоўліт — міфічная арганізацыя, якая мела неабмежаваную ўладу над друкаванымі выданнямі, бо толькі яна давала «дабро» на выхад твора ў свет. Часцей за ўсё з гэтай арганізацыяй сутыкаліся супрацоўнікі рэдакцый, і гнеў аўтараў, якіх «зарэзалі», часта вылівався менавіта на тых, хто быў змушаны круціцца паміж патрабаваннямі Галоўліта, — хоць і няпісанымі, але ўсім вядомымі, — і памкненнямі творцаў, якія, канечне ж, лічылі свае працы геніяльнымі.




Пра што нельга было пісаць?

Што міліцыянеры могуць быць кепскімі. Тое, што міліцыя кепская, — пра гэта і заікацца нельга было.

Што партыйныя дзеячы ганьбяць славу КПСС.

Што ёсць таямнічая арганізацыя, якая называецца КДБ, і ў ёй ёсць такія супрацоўнікі, якіх ніхто не ведае, — кадэбісты называюцца…

Што ў арміі ёсць «дзедаўшчына» — лыжкамі прысягу прымаюць…

Калі б ведалі вы, колькі было тэм забароненых…

Нават пра ўсім цяпер вядомы секс пісаць залішне было нельга. Кажуць, адзін аўтар у тыя часы выдаў кніжыцу пад назваю «Пакінутая на досвітку». Кніжыцу, кажуць, «размялі» за тыдзень. Думалі, што пакінутай на досвітку была каханая. Аказалася, гэта вёска…

Было афіцыйна правільнае жыццё: без сямейных скандалаў і тым больш разводаў (само слова «разводны» азначала амаль тое ж самае, што «заразны»), з партыйнымі сходамі і артыкуламі ў газетах (дарэчы, часта слушнымі і справядлівымі). Была Вышэйшая партыйная школа, якую кожны прыстойны чыноўнік павінен быў закончыць. Былі вочныя і завочныя курсы марксізму-ленінізму — цэласная сістэма выхаваўчай работы. У апошнія гады існавання СССР гаварылася пра сацыялістычную сістэму як цывілізацыю!

У гэтай цэласнай сістэме літаратура з яе пачуццёвым эмацыянальным пачаткам выпадала з-пад татальнага кантролю ўлады. Людзі інтуітыўна адчувалі, што праз літаратуру можна спазнаць, а галоўнае, адчуць, што ў адносна сытым жыцці ёсць штосьці ненатуральнае, нешта такое, што змушае шаптацца на кухнях і ў барах, а таксама співаць, слухаючы «зарэчныя» галасы…

Тады пра развал СССР яшчэ не гаварылася, тады яшчэ толькі-толькі выспявала тое выбуховае, што выплеснулася Чарнобылем і на шматгалосых мітынгах.

Супрацоўнікам часопісаў — і «Маладосці» таксама — даводзілася ўвесь час утрымліваць пэўную мяжу паміж дазволеным і недазволеным, тым, што ў крытычнай прэсе называлася песімізмам і ачарніцельствам светлай сучаснасці. Варта нагадаць, што на кожную кнігу ў выдавецтве пісаліся «закрытыя» рэцэнзіі, і творы аўтараў-«ачарніцеляў» на падставе такіх рэцэнзій маглі здымацца нават пасля карэктуры.

Усё гэта мне давялося паспытаць на сваёй скуры, уключаючы зняцце з друку другой карэктуры рамана. Як малады і нявопытны, напісаўшы аповесць пра студэнцтва, — слабаваценькую і рыхлую — я даў ёй загаловак «Занадта мала было адчаю». У карэктуры Галоўліт яе зняў. Мяркую, з-за загалоўка. Бураўкін пасмейваўся: «Ну і як, хапіла цяпер адчаю?»…

# Беларускі пірог для класікаў

Гутарка Таццяны Сівец з галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» Святланай Дзянісавай

**— Кнігу «Скрозь «Маладосць» яшчэ будуць ацэньваць чытачы і літаратуразнаўцы. Вельмі хутка мы зможам патрымаць яе ў руках. А пакуль скажыце, Святлана, ці сталі бліжэй вам «маладосцеўскія класікі» пасля працы над укладаннем гэтага выдання?**

— Можна нават і больш сказаць: адчуванне такое, быццам за перыяд працы над кнігай, рэдагавання тэкстаў, падбору ілюстрацый і напісання «ўкладальніцкіх падводак», я ўволю павандравала на машыне часу, асабіста з кожным маладосцеўскім класікам пазнаёмілася і нават трошкі папрацавала з імі ў адным кабінеце. У выніку такога пагружэння ў гісторыю добра цяпер ведаю, для чаго дакладна ствараўся часопіс «Маладосць» і якія мэты стаялі перад літаратурай шэсць дзясяткаў гадоў таму. Сёння, такім чынам, мне прасцей аналізаваць і праводзіць паралелі, а значыць, рухацца наперад. Такі вось парадокс атрымліваецца: нашы класікі, эмацыянальна робячыся да нас усё больш блізкімі, аддаляюцца ад нас гістарычна. Але ж Зямлю рухаюць, прымушаючы не спыняцца, чалавечыя ногі — тым, што ідуць далей.

**— Якія раздзелы былі самымі цяжкімі і якія думкі ўзнікалі падчас падрыхтоўкі?**



— У анатацыі да кнігі сказана, што яе не назавеш ні ўнікальнай, ні арыгінальнай — па той прычыне, што такія выданні ствараюцца на «адзін-два-тры». То і чытацца яна будзе гэтаксама, як пісалася і ўкладалася, — лёгка, весела і захапляльна. Я на поўным сур'ёзе магу сказаць, што ў яе ёсць шанцы стаць бестселерам. А ўвогуле, мая праца як укладальніцы складалася ўсяго толькі з трох «З»: замовіць успаміны, запісаць інтэрв'ю, зрабіць «прадавальныя» ўступы. Даўно заўважыла: калі нейкая праца табе асабіста цікавая, то нічога складанага ў ёй няма.

**— Чаго не хапала «Маладосці» 1953 года, у адрозненне ад часопіса 2013-га?**

— Мяркуючы па накладах і папулярнасці, якая канстатуецца сучаснікамі, той «Маладосці» ўсяго хапала. Прыемна і разам з тым дзіўна, гартаючы першыя нумары, зазначаць, што і сілу мастацкіх твораў, і вастрыню тэм тагачаснай публіцыстыкі, і стылёвасць падачы тэкстаў, і нават вёрстку можна пераняць сёння практычна цалкам. Дарэчы, пастаянныя чытачы «Маладосці» змогуць у гэтым пераканацца, атрымаўшы ў падарунак архіўны нумар часопіса з аўтографам вядомага сучаснага пісьменніка. Гэта, можна сказаць, падарунак «два ў адным». Усё, што трэба, каб яго атрымаць, — аформіць падпіску на другое паўгоддзе і прад'явіць у рэдакцыі квіток да канца мая.

**— Героі кнігі адказваюць для сябе на пытанне «Што такое "Маладосць"?». А вы гатовыя на яго адказаць?**

— Паспрабую адшукаць нейкае вызначэнне. Маладосць — гэта рух наперад… Так, несупынны рух наперад. І хоць двукоссе (калі гаварыць ужо пра назву часопіса) надае гэтаму слову адценне стацыянарнасці, пастаянства і таму ў нейкай ступені прадказальнасці, агульны тон усё ж не губляецца: «Маладосць» можа існаваць толькі тады, калі яе стваральнікі рухаюцца наперад, круцячы пад сабою кожны сваю дзялку Зямлі.

**— Юбілей «Маладосці» — добрая нагода для сустрэч. Калі б скарыстаць тую ж самую машыну часу, каго б вы запрасілі за святочны «маладосцеўскі стол» з тых, хто адышоў ужо ў іншы свет?**

— Цікава было б пачытаць, што напісаў бы пра сённяшнія творы «Маладосці» крытык Рыгор Бярозкін, таму, канечне ж, яму перападае першы кавалак святочнага пірага. Я б абавязкова параілася наконт вокладкі з Аляксандрам Сяргеевічам Дзітлавым, а заадно замовіла б яму юбілейны фотарэпартаж. Трэці кавалак пірага дастаўся б Валянціну Ждановічу — так крэатыўна аўтараў «Маладосці» больш ніхто, на вялікі жаль, не здымаў. Паколькі найбольш блізкія для мяне па духу 1960-я, то не прапусціла б магчымасці асабіста пазнаёміцца з рэдактарам «Маладосці» таго часу Піменам Емяльянавічам Панчанкам. Напэўна, трошкі пазней далучыўся б да кампаніі Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч, які так шмат разоў абяцаў, што нагі яго не будзе ў гэтай… «Маладосці», але прыходзіў, дзякуй богу, зноў і зноў. Няхай бы ён паглядзеў — на ўсялякі выпадак, — што пісаць трэба ўмець так, каб немагчыма было адарвацца ад чытання ўсю ноч. Госці, як бачыце, запрашаліся б з нейкім умыслам — каб далі адзнаку і параду. Бо, па вялікім рахунку, навошта іх без мэты турбаваць?..

# ...Фестывальная, дом 53

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Якаў Невахавіч Кумок — рускі пісьменнік, які нарадзіўся ў Мінску ў 1932 годзе, разам з сям'ёю ў самым пачатку Вялікай Айчыннай паспеў эвакуіравацца з пылаючага горада. Праз некаторы час мінчукі з вуліцы Камуністычнай былі на поўдні савецкай краіны, у Ташкенце. А там, у беларускай сталіцы, у спякотным чэрвені 1941-га засталася родная бабуля... Гэта — як сардэчная стрэмка на ўсё жыццё. Ахвярамі фашысцкага генацыду ў Мінску сталі бабуля і дзясяткі родзічаў, блізкіх людзей Якава Невахавіча Кумка.

У Ташкенце наш зямляк закончыў сярэднюю школу, пасля — геалагічны факультэт Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля вучобы працаваў у розных экспедыцыях, выступаў у маладзёжным друку. Спрабаваў пісаць апавяданні. У сярэдзіне 1960-х гадоў пераехаў у Маскву. Без сувязей, нікому не вядомы, пачаў сваю журналісцкую, пісьменніцкую кар'еру ў горадзе, дзе паэтаў, празаікаў, драматургаў было звышдастаткова.

Спярша прыйшоў у рэдакцыю «маладагвардзейскай» серыі «Жыццё знакамітых людзей» і адразу прапанаваў біяграфію акадэміка Губкіна. Дакладней — заяўку на біяграфію. Праўда, вельмі разгорнутую, з пэўнымі падрабязнасцямі, з часткова напісанымі некаторымі раздзеламі. Часы былі не такія простыя. Першыя крокі, няхай сабе і таленавітаму чалавеку, даваліся заўжды нялёгка. І ўсё ж наш зямляк знайшоў сваё месца. Адна за другой у серыі «ЖЗЛ» пабачылі свет яго кнігі пра славутых геолагаў розных пакаленняў — Івана Губкіна, Яўграфія Фёдарава, Аляксандра Карпінскага. Для калектыўнага зборніка (таксама ў серыі «ЖЗЛ») «Савецкія алімпійцы» Якаў Кумок напісаў грунтоўны нарыс пра легендарнага баксёра — Валерыя Папенчанку.

А жыў Якаў Невахавіч у Маскве па вуліцы Фестывальнай, дом 53, корпус 5... Ужо адтуль, з Фестывальнай, выбіраўся ў Сярэднюю Азію, іншыя куточкі Савецкага Саюза. Пісаў для маскоўскіх часопісаў нарысы. У тым ліку — і для аўтарытэтнага штомесячніка «Вокруг света».

Мы «знайшліся» з Якавам Невахавічам у сярэдзіне 1990-х... Недзе ў тыя ж гады я адшукаў і іншых пісьменнікаў — ураджэнцаў Беларусі, якія працавалі для «ЖЗЛ». А гэта — і А. Левандоўскі, і Ю. Люшчыц (прадзед Юрыя Міхайлавіча пахаваны на Случчыне, у вёсцы Лапацічы)... З Якавам Кумком пачалося ліставанне. Сёе-тое ўдалося даведацца з яго творчай біяграфіі. Ды пра гэта — у лістах і паштоўках з маскоўскай вуліцы Фестывальнай. А самога Якава Невахавіча ўжо няма сярод жывых, памёр ён 21 чэрвеня 2011 года...

«Дарагі Алесь! Увесну я быў сабраўся ехаць у Мінск. Але час забралі розныя абставіны (у прыватнасці, будаўніцтва лецішча, чым я раней ніколі не займаўся, а тут даваўся ўпрэгчыся). Вашы кнігі — прачытаў не без напружання. Затое з задавальненнем. І амаль усё зразумеў. Вялікі Вам за іх дзякуй! Гэта цікавыя дакументальныя рэчы — гавару як чалавек, які аддаў шмат гадоў і працы гэтаму жанру. «Калі хочаш зразумець...» — спыню тут цытату, бо я зразумеў, што Вас я павінен прачытаць на роднай (часткова ж і для мяне!) для Вас мове.

Уся мая неакуратнасць пераходзіць ўсемагчымыя «приличия», і мне застаецца спадзявацца на Вашу дабрыню і народнасць.

Мой часопіс (мой! — калі б у мяне меўся доступ да фінансавых пытанняў) спыніў існаванне. Не ведаю, назусім ці, ці надоўга — ва ўсялякім разе, у гэтым годзе мы не змаглі выпусціць ніводнага нумара...» Размова — пра часопіс «Русский еврей», выданне, якім я таксама цікавіўся, шукаючы на яго старонках звестак пра ўраджэнцаў Беларусі. Лічу, што выданне пра гэтыя лёсы, іх шлях ад вясковых школ да ўніверсітэцкіх і акадэмічных прыступак — таксама частка гістарычнага багажу, з якім Беларусь вандруе ў бязмежнай сусветнай прасторы».

І далей — з таго ж ліста (мяркую па паштовым штэмпелі на канверце, што гэты ліст з 2002 года): «Мы з Неізвесным здалі ў выдавецтва 3-ці том нашых біблейскіх работ. Гэта — «Прарокі» — па аб'ёме самы вялікі, хачу верыць, што і па якасці не саступіць папярэднім. Ды ў Вас, здаецца, і няма ніводнага тома, Вы іх не бачылі. Трэба будзе пры нагодзе выправіць гэты промах — так. Менавіта пры нагодзе, пры сустрэчы — па пошце не вышлеш. З надзеяй на сустрэчу застаюся Ваш Я. Кумок».

Тут трэба крыху патлумачыць. Са славутым скульптарам, мастаком Эрнэстам Неізвесным наш зямляк супрацоўнічаў у наступным творчым праекце. Якаў Кумок выклаў свой мастацкі, філасофскі погляд на некаторыя раздзелы Бібліі. А Э. Неізвесны праілюстраваў кожнае з 3 выданняў 33 малюнкамі. У выніку нарадзілася тры кнігі.

У адной з навагодніх паштовак, відаць, з 2006-м ці з 2007-м Новым годам, Якаў Невахавіч піша: «Дарагі Алесь! Сардэчна віншую Вас з Новым годам! Жадаю здароўя, свежых сіл і новых кніг! У лістападзе выйшла доўгачаканая наша з Э. Н. трэцяя кніга («Прарокі»). Амаль 5 гадоў гуляла яна па выдавецтвах, пакуль не патрапіла ў «Прогресс» і не знайшоўся спонсар. Як вы? Што пішаце? Заўсёды радуюся вашым лістам. Ці атрымалі Вы маю спартыўную кніжачку? Ваш Я. К.».

8 жніўня 2009 г. я атрымаў ад Якава Невахавіча ліст, які ў доме па вуліцы Фестывальнай у Маскве быў напісаны 28 ліпеня 2009 года: «Дарагі Алесь Мікалаевіч! Сардэчна рады Вашаму пісьму. Дзякуй! Увесну гэтага года я закончыў раман аб'ёмам аркушаў у 20. Ёсць там і раздзелы, дзе апісваецца Мінск у першыя дні вайны. Не ведаю, ці могуць яны прадстаўляць цікавасць у адрыве ад агульнага аповеду. У асноўным жа дзеянне



*Той самы дом...*

разгортваецца ў невялікім сібірскім гарадку і ў Маскве. Цяпер я сяджу ў адзіноце на лецішчы і выпраўляю тэкст. Работа зойме прыкладна яшчэ 1,5 — 2 месяцы. Калі яна будзе завершана, я з задавальненнем прадастаўлю раман Вам, калі Вам будзе цікава з ім азнаёміцца». І далей: «Ёсць у мяне даўняя задумка сабраць усе тры кнігі, створаныя ў суаўтарстве з Э. Неізвесным, у адну. Нагадаю, якім біблейскім паэтам яны прысвячаліся: «Эклезіяст», «Іоў», «Прарокі». Нашы ўзаемныя з Э. Неізвесным абавязацельствы завершыліся, выкананы, і я хацеў бы аб'яднаць тэкст і выдаць альбо зусім без ілюстрацый альбо — калі Вам такі варыянт падыдзе, калі такі праект зацікавіць — з малюнкамі беларускіх мастакоў. Можа быць, варта было б выкарыстаць рэпрадукцыі са старадаўніх беларускіх абразоў. Словам, тут ёсць што абмеркаваць. Жадаю Вам усяго найлепшага! Ваш Я. Кумок».

Ідэя захапіла і мяне. Але перапіска наша абарвалася. Наступныя некалькі лістоў у Маскву засталіся без адказу. А колькі месяцаў таму я даведаўся, што 21 чэрвеня 2011 года Якава Невахавіча не стала на гэтым свеце...

# Работа над памылкамі

Мінулы год, багаты на літаратурныя юбілеі, парадаваў шматлікімі публікацыямі, даследаваннямі. Асобныя нумары рэспубліканскіх перыядычных выданняў былі прысвечаныя народным паэтам Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Танку. На пачатку студзеня выйшаў з друку апошні, 20-ы, том Збору твораў Якуба Коласа. Усё гэта важна і, безумоўна, яшчэ будзе прачытана і асэнсавана.

**Вера МІЦКЕВІЧ**

Што датычыць Збору твораў — гэта прадмет асобнага даследавання. Была зроблена велізарная праца па ўкладанні, стварэнні навуковага каментарыя, якая вялася на працягу многіх гадоў цэлым калектывам тэкстолагаў, музейшчыкаў, архівістаў, выдаўцоў, сяброў рэдакцыйнай рады. Былі розныя думкі, спрэчныя пазіцыі, не заўсёды ўдавалася даследаваць тую ці іншую сітуацыю, ды і калектыў тэкстолагаў мяняўся. І, безумоўна, памылкі будуць яшчэ выяўляцца і ўдакладняцца. Для прыкладу: так і не было выпраўлена няправільнае тлумачэнне значэння слова «ворчык» у кантэксце паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»: «Прывёў ён дзядзьку ў карыдорчык // (Абодвух іх трымае ворчык)». У 8-м томе Збору твораў у 20 тамах у каментарыі пададзена: «ворчык — прыстасаванне для прыпрэжкі каня ў дапамогу караннiку; барак; тут: у пераносным значэнні», у папярэдніх двух Зборах твораў — «пастронак». У кантэксце «Новай зямлі» слова «ворчык» — невялікі мяшок, торба, ад польскага worek — woreczek — мяшочак, сумка з тканіны. Дзядзька Антось едзе на цягніку ў Вільню «зайцам», у «торбе з кутасамі» трымае «хабар», каб аддзячыць кандуктару, і кандуктар цудоўна пра гэта ведае. Так занатавана — звяртаю ўвагу — у прыжыццёвым Зборы твораў класіка ў 7 тамах (т. 4, с. 496), калі сам народны паэт праглядаў паэму, рабіў заўвагі па тэкстах. Пацвярджэнне знаходзім у «Матэрыялах для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» пад рэдакцыяй М. Жыдовіч: ворак — мяшок.

Пакідае пытанне і публікацыя ў газеце «Комсомольская правда» ад 28 лістапада 2012 года, падпісаная Надзеяй Белахвосцік, з доўгай назвай «Якуб Колас неохотно платил партийные взносы, но помогал деньгами Анне Ахматовой». У пераліку псеўданімаў Якуба Коласа: КуКодесник — памылка друку, трэба — Кудесник; псеўданімы Марцін, Марцін з-за рэчкі Якубу Коласу не належаць. Цытата з тэксту: «...огромное впечатление произвело стихотворение народовольца Якубовича-Мельшина «Колос». У сапраўднасці размова ідзе пра пераклад Пятром



*Фота Кастуся Дробава*

Якубовічам-Мельшыным на рускую мову верша «Батрак» польскай паэтэсы Марыі Канапніцкай, які ў арыгінале называецца «Wolny najmita». Нарэшце, у апошнім сюжэце вядзецца размова пра ўжо шырокавядомы ліст Якуба Коласа, прысвечаны стану беларускай мовы, які ён прынёсіў у ЦК КПБ у апошні дзень свайго жыцця. І зусім не «сложно сказать, когда оно было написано» — 25.05.1956 г., пацвярджэнне знойдзем у кнізе «Купала і Колас, вы нас гадавалі».

Летась пабачыла свет кніга слонімскага краязнаўцы, пісьменніка Сяргея Чыгрына «Па слядах Купалы і Коласа» у раздзеле «Незабыўны Алег Лойка і яго згадкі пра песняроў» чытаю: «Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі <...> Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна — была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, аддадай мужу». Ствараецца такое ўражанне, што Канстанцін Міхайлавіч толькі таму і ажаніўся з Марыяй Каменскай, што яна была багатай. І як жа гэта «багатая мяшчанка» пайшла замуж за простага настаўніка, сялянскага сына, які толькі год як выйшаў з турмы? Для параўнання прывяду іншыя цытаты. З перапіскі родных братоў Марыі Дзмітрыеўны Івана і Міхаіла Каменскіх, Іван піша брату ў 1911 — 1912 гадах: «К празднику [Вялікадня — **В. М.**] купил Марусе шляпу за 8 р. и дал ей 10 р. на шитьё жакета...» (прыватны архіў). З кнігі Данілы Міцкевіча «Любіць і помніць» пра побыт сям'і на Куршчыне ў 1917 — 1920-х гадах: «Памятаю, як зусім знясіленая хваробай і голадам мама апусціла на падлогу школьную дошку, паклала на яе мяне і майго меншага брата Юрку і сама, зняможаная, легла з намі. Прыйшоў бацька, пабачыў нас у такім стане і заплакаў. Кінуўся ратаваць...» Такое было багацце! Марыя Дзмітрыеўна была багатай сваёю душою, светапоглядам, чулліым сэрцам, светлымі думкамі.

Паводле прымаўкі «дзе густа, а дзе пуста» склалася і ўражанне ад знаёмства з кнігай «Гісторыя Пінска. Ад старажытнасці да сучаснасці да 915-й гадавіны з першага летапіснага ўпамінання» (Мінск: Вышэйшая школа, 2012), падрыхтаванай вялікім аўтарскім калектывам. Безумоўна, гэта вельмі патрэбная кніга, у якой можна знайсці многа цікавай інфармацыі. Лагічна было б убачыць і раздзел, прысвечаны песняру, бо ў Пінску ён працаваў настаўнікам, развіваўся як творца. І якое ж чакала мяне здзіўленне, калі на 70 старонках раздзела «Пінск у складзе Расійскай імперыі» адшукаўся ўсяго адзін абзац на с. 305 — 306: «Сваe замалёўкі аб жыцці простых пінчукоў пакінуў Якуб Колас, які ў 1912 г. жыў у Пінску і выкладаў у прыходскім вучылішчы». І далей прыведзены ўрывак з трылогіі «На ростанях» пра палешукоў.

Сёння, у XXI стагоддзі, свет валодае найноўшымі інфармацыйнымі тэхналогіямі і магчымасцямі. Але знаходзяць, ствараюць, апрацоўваюць гэтую інфармацыю далёка не механічныя робаты, а людзі — прафесійныя журналісты, навукоўцы, пісьменнікі, гісторыкі. І вельмі хацелася б, каб такія неабходныя кожнаму тыгору рысы, як этычнасць, дакладнасць, адказнасць за пададзеныя звесткі, заставаліся галоўнымі ў іх дзейнасці.

# Здаровы анархізм творчасці

Міжнародны фестываль саверсізму і ігдрасілізму «ДАХ-Крах-ХХ. "Напрыканцы канца..."» распачаўся ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Нарадзіўся фестываль у самым вядомым берлінскім сквоце — арт-цэнтры «Тахелес». Будынак, які на працягу 22 год меў назву Дома Мастацтваў, быў пабудаваны ў яўрэйскім квартале Усходняга Берліна ў 1909 годзе. Спачатку тут месціўся ўнівермаг, крыху пазней — рознага кшталту прадпрыемствы, падчас Другой Сусветнай вайны, паводле легенды, знаходзіўся штаб СС. Пасля завяршэння баявых дзеянняў будынак застаўся неадрэстаўрыраваным, у 1980 годзе яго стан палічылі крытычным — ён пайшоў на знос. Пасля выбуховых работ ацалела толькі крыло з шасцю паверхамі. У такім стане ён і сустрэў падзенне Берлінскай сцяны, а таксама 90-я, калі яго аблюбавалі вольныя мастакі, музыкі, артысты, скульптары дый проста прадстаўнікі нефармальных тусовак. Так звычайны сквот ператвараецца ў сапраўдную «Мекку» для творчых людзей ўсяго свету і атрымаў назву «Тахелес», што з мовы ідыш перакладаецца як «адкрыта гаварыць, свабодна выказваць сваё меркаванне».

Не абміналі арт-сквот і беларусы. Менавіта тут працяглы час жыў і працаваў мастак Алесь Родзін, які і распачаў у 2001 годзе ў «Тахелесе» фестываль альтэрнатыўнай культуры «ДАХ». З таго часу самая буйная выстаўка беларускага мастацтва за межамі краіны стала своеасаблівым мостам паміж Беларуссю і Германіяй.

Усе прыхільнікі сучаснага мастацтва добра памятаюць ДАХ-IX і ДАХ-XI, якія два гады запар у Палацы мастацтва збіралі сотні мастакоў, перформераў, літаратараў, фатографаў, тысячы гледачоў, каля месяца трымалі ў напружанні творчае жыццё сталіцы, шматлікія ДАХі праходзілі і ў Берліне. Некаторыя з іх прысвячаліся выбітным і значным для нашай культуры асобам, кшталту Язэпа Драздовіча ці Чэслава Нёмана. У гэтым годзе галоўнай фігурай ДАХу стане яшчэ адзін беларус — Тадэвуш Рэйтан, грамадскі і палітычны дзеяч, дэпутат «падзельнага» Сойма Рэчы Паспалітай, які да апошняга супрацьўляўся падзелу магутнай дзяржавы.

У розныя гады да арганізацыі ДАХу далучаліся І. Ермакоў, А. Тарановіч, Я. Шунейка, М. Райтэр, У. Бубен, І. Сін, Т. Федарэнка, Л. Фінкельштэйн, А. Карпілава і інш. Нязменныя куратары фестывалю — Мітрыч (Дзмітрый Юркевіч) і Аляксандр Родзін — увесь час імкнуцца зрабіць фестываль часовым адбіткам «Тахелеса»: ён і цікавы, і незразумелы, запоўнены творамі выяўленчага мастацтва, музыкай, тэатральнымі і перформанс-выступленнямі, паэзіяй. Абмежаванняў не існуе.




Аднак не існуе больш і «Тахелеса». Без канфліктаў з грамадскасцю, зразумела, жыхары арт-сквота не абыходзіліся: час ад часу паліцыя спрабавала іх разагнаць, але ўжо на наступны дзень «Тахелес» аднаўляўся. Аднак мінулы год стаўся для Дома Мастацтваў апошнім: будынак «пайшоў па руках», і мастакі былі вымушаны яго пакінуць. Справа ў тым, што яшчэ ў 1998 годзе ўлады Берліна прадалі дом кампаніі *Fundus-Gruppe*, якая збіралася пабудаваць на месцы арт-цэнтра жылыя і офісныя будынкі. Планы так і не былі рэалізаваны — кампанія абанкруцілася. У выніку будынак перайшоў у валоданне банка *HSH Nordbank*, які неўзабаве запатрабаваў яго вызваліць. Так 4 верасня культавы берлінскі цэнтр альтэрнатыўнай культуры «Тахелес», за захаванне якога мастакі змагаліся некальки гадоў, скончыў сваё існаванне. І, хаця на акцыю пратэсту супраць гвалтоўнага высялення прыйшло больш як 50 чалавек, будынак быў перададзены судовым выканаўцам. Мастакі назвалі закрыццё «Тахелеса» гвалтам над мастацтвам, аднак вымушаны былі змірыцца. Улічваючы, што апошні год існавання арт-цэнтра можна смела характарызаваць як час разбурэння мастацкіх дасягненняў і судовых боек, сённяшні ДАХ прысвечаны і гэтым падзеям.

Як заўсёды, у выстаўках і мерапрыемствах фестывалю бяруць удзел і прафесіяналы. На сёлетнім фестывалі іх будзе шмат — каля дзесяці мастакоў з «Тахелеса», які працягвае існаваць у якасці вандроўнай арт-сядзібы, музыкі з Украіны, ЗША, Літвы, Расіі і, зразумела, Беларусі. Да 15 мая Музей сучаснага мастацтва паглыбіцца ў атмасферу «Тахелеса». Каб узмацніць адчуванні, арганізатары выкарысталі характэрныя для арт-сквота дэкарацыі: графіці, інсталяцыі і інш. Тут будзе прадстаўлены жывапіс А. Родзіна, Дз. Юркевіча, работы пачэснага госця сёлетняга ДАХу — мастака Марціна Райтэра, кіраўніка легендарнага «Тахелеса». Будуць экспанавацца, канечне, і творы С. Чарапавіка, У. Вядрэнкі, В. Бубна і іншых мастакоў.

— Цуду, зразумела, чакаць не будзем, бо немагчыма адным дахам пакрыць нашу культурную прастору, — распавядае кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт, прафесар кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў БДАМ, адзін з удзельнікаў фестывалю «ДАХ-IX» Яўген Шунейка. — Але ўсё адно — гэта сур'ёзны праект аўтарытэтнага асяродка ў Берліне, які аб'ядноўвае мастакоў як постсавецкай прасторы, так і Захаду, і Далёкага Усходу.

Усе ведаюць сумную гісторыю «Тахелеса», менавіта таму ў назве сёлетняга фестывалю прысутнічае слова «крах» — няма больш месца, якое аб'ядноўвала беларусаў і немцаў. Але другая частка назвы — «Напрыканцы канца...» — нясе ў сабе станоўчы змест: дзе канец старога, там жа і пачатак новага. Саверсізм — неабходнасць увесь час штосьці засяваць, ігдрасілізм — вучэнне з індаеўрапейскай міфалогіі, у якой існуе вобраз Дрэва Жыцця. Сумесь няпростая, але паглядзім, што з яе атрымаецца.

Што датычыць майго асабістага стаўлення да фестывалю... Ведаеце, у беларусаў ёсць адна не вельмі прыемная рыса — залішняя патрабавальнасць невядома чаго ад усіх: ад пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў. Нашчадкі ж «Тахелеса» — свабодныя, яны збіраюцца не пад прымусам, але па добрай волі. Усе яны спавядаюць мову сучаснага экспрэсіянізму, тым самым пратэстуючы супраць мяшчанскай формы жыцця, дзе ўсе сацыяльныя ролі загадзя размеркаваныя, а чалавек запраграмаваны на пэўныя дзеянні. Менавіта таму фестываль і выклікае вакол сябе столькі спрэчак. Тут ідзе барацьба за свабоду асобы. Я лічу, ДАХ — сур'езная з'ява, здаровы, неразбуральны анархізм — пачатак адметнага мастацтва XXI стагоддзя, якое ігнаруе прынятыя ў сучасным грамадстве стандарты. Тым больш што многія мастакі патрапляюць у залежнасць ад заказаў, ператвараючыся з творчай асобы ў праваднікa чужых густаў, таму гэты фестываль — як глыток свежага паветра, вектар развіцця сучаснага мастацтва, у якім не павінна быць месца камерцыйнасці.

Ведаеце, мне падаецца, што свой «Тахелес» ёсць і ў беларусаў, але ён рассеяны па кватэрах, падвалах, падвалах. Бо толькі ў Мінску з'яўляецца Родзін, як да яго пачынае цягнуцца таленавітая крэатыўная моладзь, якая прагне не рамяства, але свабоднай творчасці. У Маскве, Кіеве такія арт-цэнтры ўжо даўно створаныя. Патрэбны ён і ў Мінску, бо сапраўднае мастацтва заўсёды згуртоўвае інтэлігентаў і эстэтаў, і няважна, што яны маладыя дый часам выглядаюць брутальна. Яны — будучыня беларускай культуры, наша эліта.

Наогул, Беларусь трэба прапагандаваць праз творчасць: мастакі павінны мець магчымасць пажыць доўгі час за мяжой, каб паказаць іншым, што мы не нейкія там кансерванты — мы можам, захаваўшы свой уласны стыль, далучыцца да адлюстравання вобразнай мовай любых агульначалавечых праблем.

# Віцебскі Леанарда наведаў Славенію



*Сцэна са спектакля «Леанарда?»*

Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа г. Віцебска 6 красавіка ў межах міжнароднай праграмы фестывалю «Тыдзень славенскай драмы» ў горадзе Крань (Славенія) прэзентаваў спектакль «Леанарда?» паводле п'есы сучаснага славенскага драматурга Эвальда Флізара (пастаноўка Аляксандра Марчанкі). Сёлета ў фестывалі ўзялі ўдзел 7 спектакляў з замежных краін (Аўстрыя, Балгарыя, Японія, Тайвань, Швецыя, Беларусь), а таксама 12 славенскіх пастановак.

Выбар спектакля «Леанарда?» для ўдзелу ў фестывалі абумоўлены яго актуальнасцю, сучаснасцю закранутых праблем, поглядам рэжысёра-дэбютанта на сучасную драматургію, а таксама наватарствам сцэнаграфічнага рашэння. У аснове спектакля — ідэя адказнасці сучаснага чалавека за сваю ўнутраную напоўненасць і свабоду выбару.

На паказе спектакля коласаўскага тэатра прысутнічалі таксама прадстаўнікі тэатраў шэрагу краін, у тым ліку Фінляндыі, Славеніі, Японіі, Грэцыі, Аўстрыі, Сербіі. Выступленне атрымала высокую ацэнку. Гледачы прымалі гасцей надзвычай прыхільна. Адзначылі кранальнасць, глыбіню спектакля, цудоўную рэжысуру і прафесіяналізм артыстаў. Спектакль ішоў па-беларуску са славенскімі субцітрамі, што ніякім чынам не замінала ўспрыманню дзеяння на сцэне. Спадар Эвальд Флізар, славенскі драматург, аўтар п'есы «Як наконт Леанарда?», паводле якой здзяйснялася пастаноўка, лаўрэат прэміі за лепшую п'есу 2013 года, ухваліў скарачэнні і некаторыя змены ў фінале п'есы і выказаў сваё захапленне, паабяцаўшы рэкамендаваць спектакль для ўдзелу ў Міжнародным фестывалі ў Індыі.

Падчас «Тыдня славенскай драмы» была дасягнута папярэдняя дамоўленасць пра ўдзел тэатра ў фестывалі ў Сербіі ў наступным годзе. Адбыўся абмен драматургічнымі тэкстамі: коласаўскі тэатр атрымаў зборы п'ес славенскай і фінскай драматургіі ў перакладзе на англійскую мову. Тэатру імя Якуба Коласа было прапанавана паўдзельнічаць у новым перспектыўным фестывалі сучаснай славенскай драмы, які плануе распачаць сваё існаванне ў бліжэйшы час. Падчас знаходжання на фестывалі атрымалася ўсталяваць новыя кантакты — з прадстаўнікамі тэатраў Славеніі, Фінляндыі, Пуэрта-Рыка, Грэцыі ды атрымаць папярэднюю ўзгодненасць з дырэктарам і мастацкім кіраўніком Прэшырэн тэатра наконт абменных гастроляў паміж тэатрам горада Крань і НАДТ імя Якуба Коласа. Коласаўцы пазнаёміліся з шэрагам фестывальных спектакляў, у тым ліку з Японіі і Славеніі, а таксама папрысутнічалі на цырымоніі закрыцця фестывалю, дзе гасцей прывітаў міністр культуры Славеніі і выказаў удзячнасць за стварэнне цудоўнай атмасферы.

**Марына ПЯТРОВА,**
**фота прадастаўлена НАДТ імя Я. Коласа г. Віцебска**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2728
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.04.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1616
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686